*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# Наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 2 (1101) 9 СТУДЗЕНЯ 2013 г.**

## Дарагія сябры “Нашага слова”!

У гэтым квартале адбылося некаторае сезоннае павышэнне колькасці падпісчыкаў, але заслуга ў гэтым перш за ўсё г. Менска, Менскай, Берасцейскай і Гомельскай абласцей. Асабліва трэба адзначыць Слуцка-Салігорскі рэгіён, які аднавіў і нават палепшыў свае колішнія пазіцыі. Трэба адзначыць Берасце, Баранавічы, Віцебск, Жыткавічы, Гародню і Гарадзенскі раён, які стабільна павышае падпіску. Прадаўжае радаваць Кіраўск.

| | Кастрычнік | Студзень |
|---|---|---|
| **Берасцейская вобласць:** | | |
| Баранавічы р.в. | 16 | 19 |
| Бяроза р.в. | 4 | 9 |
| Белаазёрск р.в. | 1 | 1 |
| Бярэсце гор. | 11 | 15 |
| Ганцавічы р.в. | 1 | 1 |
| Драгічын р.в. | 1 | 2 |
| Жабінка р.в. | 1 | 1 |
| Іванава р.в | 2 | 2 |
| Івацэвічы р. в. | 9 | 9 |
| Камянец р.в. | 2 | 2 |
| Кобрын гор. | 1 | 1 |
| Лунінец гор. | 2 | 2 |
| Ляхавічы р.в. | 1 | - |
| Маларыта р.в. | 1 | 1 |
| Пінск гор. | 10 | 10 |
| Пружаны р.в. | 8 | 10 |
| Столін р.в. | 1 | 2 |
| **Усяго:** | **72** | **87** |
| **Віцебская вобласць:** | | |
| Бешанковічы р.в. | 3 | 1 |
| Браслаў р.в. | 2 | 1 |
| Віцебск гор. | 22 | 26 |
| Віцебск РВПС | 2 | 3 |
| Верхнедзвінск р.в. | 5 | 5 |
| Глыбокае р.в. | 6 | 5 |
| Гарадок р.в. | 5 | 4 |
| Докшыцы р.в. | 1 | 2 |
| Дуброўня р.в. | 1 | 2 |
| Лёзна р.в. | 1 | 1 |
| Лепель р. в. | 2 | 2 |
| Міёры р.в. | 2 | 2 |
| Навапалацк гор. | 18 | 13 |
| Орша гор. | 2 | 1 |
| Полацк гор. | 9 | 7 |
| Паставы р.в. | 13 | 14 |
| Расоны р.в. | 1 | 1 |
| Сянно р.в. | 2 | 1 |
| Талочын р.в. | 1 | 1 |
| Ушачы р.в. | 2 | 2 |
| Чашнікі р.в. | 1 | 1 |
| Шаркоўшчына р.в. | 7 | 5 |
| Шуміліна р.в. | - | - |
| **Усяго:** | **108** | **100** |
| **Менская вобласць:** | | |
| Беразіно р.в. | 3 | 2 |
| Барысаў гор. | 7 | 6 |
| Вілейка гор. | 2 | 1 |
| Валожын гор. | 6 | 7 |
| Дзяржынск р.в. | 6 | 5 |
| Жодзіна гор. | 4 | 4 |
| Клецк р.в. | - | 1 |
| Крупкі р.в. | 4 | 5 |
| Капыль р.в. | - | - |
| Лагойск | 3 | 4 |
| Любань р.в. | - | 1 |
| Менск гор. | 265 | 296 |
| Менск РВПС | 10 | 9 |
| Маладзечна гор. | 14 | 13 |
| Мядзель р.в. | 3 | 3 |
| Пухавічы РВПС | 4 | 5 |
| Нясвіж р.в. | 1 | - |
| Смалявічы р.в. | 2 | 1 |
| Слуцк гор. | 7 | 21 |
| Салігорск гор. | 72 | 75 |
| Ст. Дарогі р.в. | - | - |
| Стоўбцы р.в. | 3 | 2 |
| Узда р.в. | 2 | 2 |
| Чэрвень р.в. | 3 | 4 |
| **Усяго:** | **421** | **467** |
| **Гомельская вобласць:** | | |
| Буда-Кашалёва | - | 2 |
| Брагін р.в. | 1 | 1 |
| Ветка р.в. | 1 | 1 |
| Гомель гор. | 37 | 36 |
| Гомель РВПС | 1 | 1 |
| Добруш р.в. | 1 | 4 |
| Ельск р.в. | 1 | 1 |
| Жыткавічы р.в. | 7 | 12 |
| Жлобін гор. | 3 | 2 |
| Калінкавічы гор. | 1 | 1 |
| Карма р.в. | 2 | 2 |
| Лельчыцы р.в. | 1 | 1 |
| Лоеў р.в. | 1 | 1 |
| Мазыр гор. | 4 | 4 |
| Акцябарскі р.в. | 1 | - |
| Нароўля р.в. | - | - |
| Петрыкаў р.в. | 1 | 1 |
| Рэчыцца гор. | - | 3 |
| Рагачоў гор. | 1 | 2 |
| Светлагорск гор. | 3 | 3 |
| Хойнікі р.в. | - | - |
| Чачэрск р.в. | 2 | 2 |
| **Усяго:** | **69** | **80** |
| **Гарадзенская вобласць:** | | |
| Бераставіца | 4 | 5 |
| Ваўкавыск гор. | 9 | 10 |
| Воранава р.в. | 5 | 6 |
| Гародня гор. | 36 | 38 |
| Гародня РВПС | 16 | 19 |
| Дзятлава р.в. | 16 | 15 |
| Зэльва р.в. | 4 | 3 |
| Іўе р.в. | 4 | 2 |
| Карэлічы р.в. | 6 | 5 |
| Масты р.в. | 5 | 5 |
| Навагрудак гор. | 6 | 5 |
| Астравец р.в. | 6 | 5 |
| Ашмяны р.в. | 6 | 6 |
| Смаргонь гор. | 7 | 7 |
| Слонім гор. | 10 | 9 |
| Свіслач р.в. | 5 | 5 |
| Шчучын р.в. | 5 | 4 |
| Ліда | 11 | 12 |
| **Усяго:** | **161** | **161** |
| **Магілёўская вобласць:** | | |
| Бабруйск гор. | 4 | 4 |
| Бялынічы р.в. | 1 | 1 |
| Быхаў р.в. | 1 | 1 |
| Глуск р.в. | 2 | 1 |
| Горкі гор. | 1 | 2 |
| Дрыбін р.в. | - | - |
| Кіраўск р.в. | 21 | 20 |
| Клічаў р.в. | - | - |
| Клімавічы р.в. | - | - |
| Касцюковічы р.в. | 1 | 1 |
| Краснаполле р.в. | - | - |
| Крычаў р.в. | - | - |
| Круглае р.в. | 1 | 2 |
| Мсціслаў р.в. | 1 | 1 |
| Магілёў гор. | 38 | 33 |
| Магілёў РВПС | 1 | 1 |
| Асіповічы гор. | 7 | 8 |
| Слаўгарад р.в. | 1 | 3 |
| Хоцімск р.в. | 1 | 1 |
| Чэрыкаў р.в. | 2 | 2 |
| Чавусы р.в. | - | - |
| Шклоў р.в. | 2 | 2 |
| **Усяго** | **85** | **83** |
| **Усяго на краіне:** | **916** | **978** |

ISSN 2073-7033



# Гародня за беларускую мову







У Гародні на білбордах з’явілася рэклама ў падтрымку беларускай мовы. Іх можна пабачыць на вуліцах Каліноўскага, Соламавай, Кляцкова. Нічога падобнага раней у Гародні не было.

Паводле спецыялістаў аддзела ўпраўлення архітэктуры і горадабудаўніцтва Гарадзенскага гарвыканкаму, заказчыкам і распрацоўшчыкам рэкламы з’яўляецца Міністэрства культуры Беларусі.

***Міхал Карневіч.***

# 120 гадоў з дня нараджэння Канстанцыі Буйло



**Канстанцыя БУЙЛО**, сапр.: Канстанцыя КАЛЕЧЫЦ (11 па іншых крыніцах 14 студзеня 1893, Вільня - 4 чэрвеня 1986) - беларуская паэтэса. Нарадзілася ў сялянскай сям'і. Скончыла кароткатэрміновыя настаўніцкія курсы ў Вільні (1914). Настаўнічала на Лідчыне. Загадвала беларускай кнігарняй у Полацку (1915-1916). Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі працавала статыстам у Валакаламскім павятовым выканкаме рабочых і салдацкіх дэпутатаў, бухгалтарам саўгаса "Данілкава". З 1923 г. жыла ў Маскве. Працавала на заводзе "Агранном", начальнікам аддзела збыту палітэхлабарсаюза, у 1940-1951 г. - начальнікам аператыўнага аддзела, затым в.а. намесніка дырэктара цэнтральнай канторы ветэрынарнага забеспячэння трэста Саюзветзабпрам. Сябра СП СССР з 1944.

Дэбютавала вершамі ў 1909 г. (газета "Наша ніва"). Першую кнігу "Курганная кветка" (1914, Вільня, факсімільнае выданне ў 1989) адрэдагаваў Я. Купала. Аўтар зборнікаў вершаў "Світанне" (1950), "На адноўленай зямлі" (1961), "Май" (1965), "Роднаму краю" (1973). Выйшлі Выбраныя творы (1954), "Выбранае" (1968, 1976), Выбраныя творы ў 2 тамах (1981). Напісала кніжкі вершаў для дзяцей "Юрачка" (1957), "У бляску зор" (1968), "Вясной" (1984). Многія вершы паэтэсы пакладзены на музыку. Асабліва шырокую вядомасць займела песня "Люблю", якая стала народнай. Аўтар п'ес "Кветка папараці" (1914) і "Сягоннясшнія і даўнейшыя" (1914, паст. ў 1921).

*Вікіпедыя.*

# ЭДУАРДУ АКУЛІНУ - 50

**Эдуард Акулін** - паэт, перакладчык, бард. Нарадзіўся 7 студзеня 1963 года ў вёсцы Вялікія Нямкі на Веткаўшчыне. Скончыў Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт і аспірантуру НАН Беларусі. Працаваў настаўнікам, загадчыкам філіі Літаратурнага музея Максіма Багдановіча "Беларуская хатка", намеснікам галоўнага рэдактара часопіса "Першацвет", загадчыкам аддзела паэзіі часопіса "Полымя". Цяпер - галоўны рэдактар часопіса "Верасень", намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Дзеяслоў", а таксама намеснік старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Аўтар кніг паэзіі: "Лес дзённага асвятлення" (1988), "Пяшчота лiўня" (1990), "Крыло анёла" (1995), "Радно" (2000), "Непрычалены човен" (2003), "Вітражы" (2009), драматычнай містэрыі "На Каляды" (1996) а таксама двух песенных магнітаальбомаў: "Мая Крывія" (1995), "Як яна і я" (2000) і кампакт-дыскаў "Напачатку была Песня" (2003), "Песні залатой Крывії"(2008).

Вершы перакладаліся на ангельскую, французскую, італьянскую, украінскую, расейскую, польскую, балгарскую, славенскую, сербскую, харвацкую, літоўскую і латышскую мовы.

Лаўрэат Першага нацыянальнага фестывалю беларускай бардаўскай песні (1993). Сябар Рады і Сакратарыяту ТБМ.

Пра выніку апошняга творчага году перад пяцідзесяцігоддзем Эдуард Акулін гаворыць:

- "Жыццёвы шлях прайшоўшы напалову", я згадваю мудрага Коласа, ягонае "збіраць камяні". Не тыя, што трымаюць за пазухай, а тыя, "што губяць сілы маладыя". Дзякуй Богу, сёлетнія Каляды я сустракаю не з пустымі рукамі. За гэты год я падрыхтаваў і выдаў новую кнігу вершаў "Малітва воч", запісаў новы кампактдыск "Не магу жыць без крыл". З вялікімі выслілкамі, але ўсё ж здолеў выдаць сёмы нумар часопіса "Верасень" і яшчэ маю спадзеў неўзабаве пабачыць выбраны том сваёй паэзіі "Святая ноч".



Сакратарыят ТБМ шчыра віншуе Эдуарда Акуліна з юбілеем і зычыць яму сілаў, волі, плёну і творчых здабыткаў на шляху да нашай Беларусі.

*(Падборку вершаў Э. Акуліна чытайце на ст. 8.)*

# Юбілейныя і памятныя даты 2013 года

**Студзень**

**1 студзеня** - 90 гадоў з дня нараджэння **В.А. Грамыкі** (1923 г.), беларускага жывапісца, народнага мастака Беларусі.

**1 студзеня** - 60 гадоў з дня нараджэння **М.Р. Прыгодзіча**, доктара філалагічных навук, прафесара.

**3 студзеня** - 90 гадоў з дня нараджэння **Алеся Шашкова** (1923 г.), празаіка.

**3 студзеня** - 275 гадоў з дня нараджэння **Казіміра Нарбута** (1738, маёнтак Яшнец 1807 г.), асветніка, філосафа.

**7 студзеня** - 90 гадоў з дня нараджэння **В.І. Сахненкі** (1923-1973 гг.), жывапісца.

**7 студзеня** - 50 гадоў з дня нараджэння **Эдуарда Аляксандравіча Акуліна** (1963, в. Вялікая Нямкі Веткаўскага р-на), паэта.

**8 студзеня** - 425 гадоў з дня нараджэння **Яна Юрыя Радзівіла** (1588-1625 гг.), дзяржаўнага дзеяча ВКЛ.

**9 студзеня** - 60 гадоў з дня нараджэння **У.Я. Солтана** (1953-1997гг), кампазітара.

**10 студзеня** - 490 гадоў таму (1523 г.) у Кракаве была выдадзена паэма Міколы Гусоўскага **"Песня пра Зубра"**.

**11 студзеня** - 120 гадоў таму нарадзілася **Канстанцыя Буйло** (1893-1986 гг.), паэтэса, заслужаны дзеяч культуры БССР.

**13 студзеня** - 100 гадоў таму ў Вільні пачала выдавацца газета **"Беларус"**. Выходзіла да 30.07.1915 г.

**13 студзеня** - 370 гадоў з дня нараджэння **Тодара Гераніма Абуховіча** (1643-1707 гг.), мемуарыста, дзяржаўнага дзеяча ВКЛ.

**13 студзеня** - 70 гадоў з дня нараджэння **Міколы Чарняўскага** (1943 г.), паэта, празаіка.

**17 студзеня** - 160 гадоў таму нарадзілася **Соф'я Кавалеўская** (1863-1918 гг.), фалькларыстка, этнограф, пісьменніца.

**20 студзеня** - 100 гадоў з дня нараджэння **Л.К. Алексютовіч** (1913-2003 гг.), танцоўшчыцы, балетмайстра, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

**22 студзеня - 150 гадоў пачатку паўстання 1863 года ў Варшаве.**

**27 студзеня** - 100 гадоў таму (1913 г.) упершыню пастаўлена ў Вільні камедыя Я. Купалы **"Паўлінка"**.

**28 студзеня** - 425 гадоў (1588 г.) вялікі князь літоўскі і кароль польскі Жыгімонт III зацвердзіў **Статут ВКЛ**.

**28 студзеня** - 70 гадоў з дня нараджэння **Міхаіла Мікалаевіча Пташука** (1943-2002), кінарэжысёра, народнага артыста Беларусі.

**30 студзеня** - 180 гадоў з дня нараджэння **Апалінара Гіляравіча Тораўскага** (1833-1900), жывапісца-пейзажыста.

**Студзень** - 25 гадоў таму (1988 г.) выйшлі ў свет навуковы і метадычны ілюстраваны часопіс **"Беларуская мова і літаратура ў школе"** (з 1992 г. мае назву **"Роднае слова"**) і моладзевы часопіс **"Крыніца"**.

**Студзень** - 20 гадоў таму (1993 г.) выйшаў у свет першы нумар навуковага, навукова-метадычнага **"Беларускага гістарычнага часопіса"**.

**Люты**

**1 лютага - 150 гадоў пачатку паўстання 1863 года на Беларусі і Літве,** Часовы правінцыяльны ўрад Літвы і Беларусі ў гэты дзень абнародаваў Маніфест.

**1 лютага** - 100 гадоў з дня нараджэння **Сяргея Восіпавіча Прытыцкага** (1913-1971 гг.), дзяржаўнага і палітычнага дзеяча БССР.

**1 лютага** - 100 гадоў з дня нараджэння **А.А. Алешкі**, беларускага пісьменніка.

**2 лютага** - 175 гадоў з дня нараджэння **Кастуся Каліноўскага** (1938-1864 гг.), рэвалюцыянера-дэмакрата, публіцыста, кіраўніка паўстання 1863-1864 гг. на Беларусі і ў Літве.

**6 лютага** - 90 гадоў з дня нараджэння **Леаніда Дзмітрыевіча Шчамялёва** (1023 г.), жывапісца, народнага мастака Беларусі.

**8 лютага** - 120 гадоў з дня нараджэння **Антона Неманцэвіча** (1893-1943), першага экзарха беларускай уніяцкай царквы выдаўца, публіцыста, педагога.

**9-15 лютага** - 450 гадоў таму (1563 г.) маскоўскія войскі на чале Іванам IV Жахлівым захапілі **Полацк** і вывелі гараджан у палон.

**14 лютага** - 100 гадоў з дня нараджэння **Віталя Канстанцінавіча Цвіркі** (1913-1993), жывапісца, педагога, народнага мастака Беларусі.

**18 лютага** - 120 гадоў з дня нараджэння **Максіма Іванавіча Гарэцкага** (1893-1938), пісьменніка, літаратуразнаўца, крытыка, фалькларыста.



**19 лютага** - 75 гадоў з дня нараджэння **Леаніда Нікановіча Ціханава** (1938. в. Малы Аланец Карэльскай АССР), гісторыка. педагога. заслужанага дзеяча навукі Беларусі.

**21 лютага - Міжнародны дзень роднай мовы.**

**22 лютага** - 110 гадоў з дня нараджэння **Антона Нічыпаравіча Сеўчанкі** (1903-1978), фізіка, акадэміка АН БССР.

**22 лютага** - 100 гадоў з дня пастаноўкі (1913 г.) у Пецярбургу гуртком беларускіх студэнтаў камедыі Я. Купалы **"Паўлінка"** (у ролі Паўлінкі - Паўліна Мядзёлка).

**22 лютага** - 60 гадоў з дня адкрыцця (1953 г.) **Баранавіцкага краязнаўчага Музея** (заснаваны 24.05.1946 г.).

**23 лютага** - 110 гадоў таму ў мястэчку Будслаў (цяпер Мядзельскі р-н) нарадзіўся **Вінцук Жук - Грышкевіч** (1903-1989), грамадскі і палітычны дзеяч.

**24 лютага** - 90 гадоў таму нарадзіўся **І.М. Глебаў** (1923-1986), скульптар.

**24 лютага** - 75 гадоў з дня нараджэння **І.У. Скурко** (1938-1989), беларускага паэта, кінадраматурга, перакладчыка.

**27 лютага** - 125 гадоў з дня нараджэння **Я.Я. Бялевіча** (1888-?), дзеяча беларускага нацыянальнага руху.

**Сакавік**

**1 сакавіка** - 70 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Генрыхавіча Пецюкевіча** (1913 г.), паэта-песенніка.

**6 сакавіка** - 130 гадоў з дня нараджэння **Івана Бялькевіча** (1883-1960), мовазнаўца.

**6 сакавіка** - 90 гадоў з дня нараджэння **Анатоля Ляляўскага** (1923-1995), рэжысёра тэатра лялек, народнага артыста Беларусі.

**7 сакавіка** - 75 гадоў з дня нараджэння **Міхаіла Міхайлавіча Чарняўскага** (1938 г.), археолага, мастацтвазнаўства, пісьменніка.

**9 сакавіка** - 130 гадоў з дня нараджэння **Францішка Аляхновіча** (пс. Ю. Монвід, 1883-1944), драматурга і тэатральнага дзеяча, паэта, празаіка.

**10 сакавіка** - 220 гадоў з дня нараджэння **Ігната Іосіфавіча Шыдлоўскага** (1793-1846), паэта, выдаўца, фалькларыста.

**10 сакавіка** - 80 гадоў з дня нараджэння Серафіма Андраюка (1933 г.), крытыка, літаратуразнаўца, кандыдата філалагічных навук.

**11 сакавіка** - 110 гадоў з дня нараджэння **Тодара Кляшторнага** (1903-1937), паэта.

**14 сакавіка** - 90 гадоў з дня нараджэння **Аляксандра Фёдаравіча Хацкевіча** (1923-1995), гісторыка.

**15 сакавіка** - 75 гадоў з дня нараджэня **Г.М. Малажай** (1938-2006), мовазнаўцы, літаратуразнаўцы.

**17 красавіка** - 10 гадоў таму (2003 г.) выйшаў у свет першы нумар **"Краязнаўчай газеты"** (заснавальнік - Беларускі фонд культуры).

**18 сакавіка** - 80 гадоў з дня нараджэння (1933 г.) **Алены Яновіч**, мовазнаўцы, доктара філалагічных навук.

**19 сакавіка** - 380 гадоў таму (1633 г.) вялікі князь літоўскі, кароль польскі Уладзіслаў IV даў **Магілёўскаму брацтву** прывілеі на права адкрыцця друкарні і выдання кніг на беларускай, польскай, грэцкай і лацінскай мовах.

**25 сакавіка - Дзень Волі.**

**27 сакавіка** - 90 гадоў з дня нарадэння **А.І. Рылько** (1923-1967), празаіка, драматурга, публіцыста.

**28 сакавіка** - 75 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Іосіфавіча Раговіча** (1938, г.г. Парычы - 2005), харавога дырыжора, фалькларыста, педагога.

**29 сакавіка** - 190 гадоў з дня нараджэння **С.В. Замбрыжыцкага** (1823-1907), паэта краязнаўца.

**Красавік**

**2 красавіка** - 80 гадоў з дня нараджэння **Віктара Шымука** (Вікенці Мікалаевіч; 1933, Дзятлаўскі р-н - 1998). паэта, нарысіста.

**4 красавіка** - 120 гадоў з дня нараджэння **Міколы Шчаглова-Куліковіча** (1893-1969), кампазітара, музычнага і тэатральнага дзеяча.

**5 красавіка** - 220 гадоў з дня нараджэння **Канстанціна Радзівіла** (1793-1856), дзяржаўнага дзеяча, мецэната, фалькларыста.

**7 красавіка** - 100 гадоў з дня нараджэння **М.Ш. Гугеля** (1913-1985), графіка.

**13 красавіка** - 90 гадоў з дня нараджэння **Б.Г. Скабло** (1923-1999), віяланчаліста, педагога, заслужанага артыста Беларусі.

**19 красавіка** - 120 гадоў з дня нараджэння **В.С. Гарбацэвіча** (1893-1935), драматурга, педагога, заслужанага настаўніка БССР.

**21 красавіка** - 180 гадоў з дня нараджэння **Віктара Атона Сямёнавіча Каліноўскага** ( 1833, Гарадзенскі пав. - 1862), гісторыка, археографа, бібліяфіла, брата Кастуся Каліноўскага.

**23 красавіка** - 100 гадоў таму нарадзіўся **Р.Л. Рэлес** (1913- 2004), пісьменнік.

**26 красавіка** - 150 гадоў з дня нараджэння **Я.Ф. Арлоўскага** (1863-1913), гісторыка, краязнаўца, педагога.

**27 красавіка** - 60 гадоў таму (1953 г.) выйшаў у свет літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс **"Маладосць"**.

**Травень**

**1 траўня** - 100 гадоў з дня нараджэння **А.І. Кроля** (1913-1990), жывапісца.

**1 траўня** - 70 гадоў з дня нараджэння **Алеся Крыгі** (сапр. А.А. Асіпенка, 1943-2009), празаіка.

**3 траўня - Сусветны дзень свабоды друку.**

**5 траўня** - 150 гадоў таму загінуў начальнік паўстання Лідскага павету **Людвік Нарбут**.

**6 траўня** - 80 гадоў з дня нараджэння **Ю.М. Свіркі** (1933-2004), паэта і перакладчыка.

**7 траўня** - 250 гадоў з дня нараджэння **Ю.А. Панятоўскага** (1763-1813), ваеннага і дзяржаўнага дзеяча.

**8 траўня** - 130 гадоў з дня нараджэння **С.М. Некрашэвіча** (1833-1937), мовазнаўца.



**9 траўня** - 100 гадоў з дня нараджэння **В.У. Івашына** (1913-2009), літаратуразнаўца, педагога.

**10 траўня** - 130 гадоў з дня нараджэння **Янкі Маўра** (сапраўд. Іван Міхайлавіч Фёдараў, 1883- 1971), пісьменніка, перакладчыка, аднаго з пачынальнікаў беларускай дзіцячай літаратуры.

**10 траўня** - 90 гадоў з дня нараджэння **В.Ф. Трыхмяненкі** (1923-1998), празаіка.

**11 траўня** - 180 гадоў з дня нараджэння **Бенядзікта Іванавіча Дыбоўскага** (1833-1930), заолага, прыродазнаўца, лекара.

**11 траўня** - 80 гадоў з дня нараджэння **Ігара Вацлававіча Аржахоўскага** (1933, Менск - 2002), гісторыка.

**13 траўня** - 80 гадоў з дня нараджэння **А.М. Кішчанкі** (1933-1997), жывапісца, мастака па габелену.

**16 траўня** - 75 гадоў з дня нараджэння **А.В. Луцэвіча** (1938-2002), акцёра, заслуж. артыста Беларусі.

**18 траўня** - 75 гадоў з днянараджэння **Міхаіла Антонавіча Позінца** (1938 г.), дырыжора, народнага артыста Беларусі.

**21 траўня** - 325 гадоў з дня нараджэння **Мікалая Фаўстына Радзівіла** (1688-1746), дзярж. і ваен. дзеяч ВКЛ.

**23 траўня** - 25 гадоў Дзяржаўнаму **камернаму хору** Рэспублікі Беларусь.

**25 траўня** - 80 гадоў таму (1933 г.) адкрыўся у Менску **Вялікі тэатр оперы і балета** (цяпер Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр аперы і балета Рэспублікі Беларусь).

**24 траўня** - 150 гадоў таму ў Вільні расстраляны ваверскі пробашч **Раймунд Зямацкі.**

**25 траўня** - 70 гадоў з дня нараджэння **М.М. Федзюковіча** (1943-1997), паэта, перакладчыка.

**25 траўня** - 75 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Іванавіча Карызны** (1938 г.), паэта.

**27 траўня** - 80 гадоў таму (1933г), у Вільні выйшаў у свет культурна-грамадскі і літаратурны часопіс **"Беларускі летапіс"**. Выдаваўся да верасня 1939 г.

**28 траўня** - 150 гадоў таму ў Вільні павешаны паўстанцкі камандзір **Баляслаў Колышка**.

**29 траўня** - 80 гадоў з дня нараджэння **М.Р. Гайдука** (1933-1998), празаіка, пісьменніка, публіцыста.

**31 траўня** - 90 гадоў з часу заснавання Беларуска-навукова таварыства. Існавала ў Вільні ў 1923-1940гг.

**Чэрвень**

**3 чэрвеня** - 150 гадоў таму (1863 г.) адбылася бітва паміж паўстанцкімі атрадамі і царскімі войскамі **пад Мілавідамі.**

**3 чэрвеня** - 150 гадоў таму ў Вільні расстраляны ксёндз **Станіслаў Ішора**.

**3 чэвеня** - 25 гадоў таму (1988 г.) быў надрукаваны артыкул З. Пазьняка і Я. Шмыгалёва **"Курапаты - дарога смерці"** ў штотыднеўку "Літаратуры і мастацтва".

**5 чэрвеня** - 150 гадоў таму расстраляны **Альберт Ласковіч**.

**9 чэрвеня** - 210 гадоў з дня нараджэння **Адольфа Янушкевіча** (1803-1857), падарожніка, пісьменніка.

**14 чэрвеня** - 25 гадоў адраджэння **прадпрымальніцтва** ў Беларусі.

**15 чэрвеня** - 75 гадоў з дня нараджэння **В.С. Чайкі** (1938-2007), мастака, жывапісца.

**17 чэрвеня** - 160 гадоў з дня нараджэння **Л.Ф. Грыняўіцкага** (1853-1891), падарожніка.

**18 чэрвеня** - 10 гадоў таму ў Ялце, на гарадскіх могілках, устаноўлены новы **помнік Максіму Багдановічу.**

**20 чэрвеня** - 75 гадоў з дня няраджэння **М.А. Аўласевіча** (1938-2008), мовазнаўца.

**22 чэрвеня** - 130 гадоў з дня нараджэння **Аляксандра Іванавіча Цвікевіча** (1883-1937), палітычнага дзеяча, гісторыка, філосафа, публіцыста.



**24 чэрвеня** - 150 гадоў таму ў Лідзе расстраляны ксёндз **Адам Фалькоўскі.**

**26 чэрвеня** - 75 гадоў таму - першыя выбары ў Вярхоўны Савет БССР.

**26 чэрвеня** - 10 гадоў таму ў Менску закрыты **Беларускі гуманітарны ліцэй**, які існаваў з 1991 г.

**29 чэрвеня** - 90 гадоў таму (1923 г.) выйшаў у свет грамадска-палітычны і літаратурны часопіс **"Крывіч"**, які выдаваўся да 1927 г.

**Чэрвень** - 20 гадоў таму выйшаў у свет гістарычна-публіцыстычны ілюстраваны часопіс **"Беларуская мінуўшчына"**, які выдаваўся да 1999 г.

# Юбілейныя і памятныя даты 2013 года

**Ліпень**

**1 ліпеня** - 420 гадоў з дня нараджэння **Альбрыхта Станіслава Радзівіла** (1593-1856), дзяржаўнага дзеяча, пісьменніка, гісторыка.

**1 ліпеня** - 80 гадоў таму (1933 г.), у Менску заснаваны **Беларускі палітэхнічны інстытут** (цяпер Нацыянальны дзяржаўны палітэхнічны ўніверсітэт).

**5 ліпеня** - 75 гадоў з дня нараджэння **У.Г. Машкова** (1938-2000), празаіка.

**5 ліпеня** - 75 гадоў з часу заснавання **Нацыянальнага гістарычнага архіва** Беларусі.

**6 ліпеня** - 225 гадоў з дня нараджэння **Дамініка Манюшкі** (1788, Меншчына - 1848), асветніка, філантропа.

**8-10 ліпеня** - 20 гадоў таму (1993 г.) у Менску ў Вялікім тэатры оперы і балета праходзіў 1-шы з'езд беларусаў свету, які прыняў 9 дакументаў-зваротаў і дэкларацый.

**9 ліпеня** - 380 гадоў таму (1633 г.) маскоўцы напалі на **Полацак** і выпалілі ўвесь горад.

**19 ліпеня** - 25 гадоў таму (1988 г.) у Віцебску пабудаваны летні амфітэатр з самымі вялікімі ў краіне сцэнай і залай на 5400 месцаў. У ім штогод праводзіцца фестываль песні "Славянскі базар".

**14 ліпеня** - 100 гадоў з часу заснавання **Беларускага выдавецкага таварыства**. Дзейнічала ў Вільні да 1930 гадоў.

**15 ліпеня** - 75 гадоў з дня нараджэння **Аляксандра Андрэевіча Шабаліна** (1938. Пухавіцкі р-н), публіцыста. празаіка. заслужанага дзеяча культуры Беларусі.

**23 ліпеня** - 50 гадоў з дня нараджэння **Алеся Іванавіча Бельскага** (1963 г.), літаратуразнаўца, пісьменніка, доктара філалагічных навук, педагога.

**25 ліпеня** - 160 гадоў **Менскай пажарнай камандзе**. З 1994 г. гэты дзень адзначаецца як Дзень пажарнай службы.

**28 ліпеня** - 130 гадоў з часу заснавання **Гомельскага педагагічнага інстытута**. (цяпер Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Ф. Скарыны)

**Жнівень**

**1 жніўня** - 90 гадоў з дня нараджэння **М.М. Грынчыка** (1923-1999), літаратуразнаўца і крытыка, заслужанага дзеяча навукі Беларусі.

**2 жніўня** - 180 гадоў таму ў Гародні (1833 г.) пакараны на шыбеніцы **Міхаіл Валовіч** (1806-1833), рэвалюцыянер, сацыяліст-утапіст.

**4 жніўня** - 175 гадоў з дня нараджэння **Юзафа Беркмана** (1838-1919), беларускага жывапісца.

**5 жніўня** - 80 гадоў з дня нараджэння **П.А. Цомпеля** (1933-1997), беларускага скульптара.

**6 жніўня** - 75 гадоў з дня нараджэння **Ігара Міхайлавіча Лучанка** (1938 г.), кампазітара, народнага артыста СССР.

**9 жніўня** - 120 гадоў з дня нараджэння **В.Ф. Мачульскага**, беларускага літаратуразнаўца.

**11 жніўня** - 90 гадоў з дня нараджэння **В.І. Ялатава** (1923-1980), музыказнаўца, фалькларыста.

**13 жніўня** - 100 гадоў з дня нараджэння **А.В. Багатырова** (1913-2003), беларускага кампазітара, педагога, народнага артыста Беларусі.

**14 жніўня** - 110 гадоў з дня нараджэння **С.С. Бірылы** (1903-1978), акцёра, народнага артыста БССР.

**21 жніўня** - 75 гадоў з дня нараджэння **С.М. Ларчанкі**, беларускага мастака манументальна-дэкаратыўнага мастацтва, скульптара.

**23 жніўня** - 90 гадоў з дня нараджэння **А.А. Вейзэ** (1923-2001), беларускага мовазнаўца, педагога, перакладчыка.

**25 жніўня** - 60 гадоў з дня нараджэння **Ўладзіміра Арлова**, пісьменніку.



**28 жніўня** - 125 гадоў з дня нараджэння **А.В. Багдановіча** (1888-1969), беларускага мовазнаўца.

**Жнівень** - 140 гадоў **Беларускай чыгунцы**. 10 гадоў таму ў Лідзе ўстаноўлены помнік- манумент "130 год Беларускай чыгунцы".

**Верасень**

**1 верасня - Дзень ведаў, Дзень беларускага пісьменства.**

**4 верасня** - 120 гадоў з дня нараджэння **Юзюка Фарботкі** (Язэпа Аўгусцінавіча; 1893-1956), беларускага паэта літаратуразнаўца, перакладчыка.

**8 верасня - Міжнародны дзень пісьменнасці.**

**8 верасня - Дзень беларускай вайсковай славы.**

**10 верасня** - 120 гадоў з дня нараджэння **Аляксандра Міхайлавіча Ляўданскага** (1893- 1937), археолага.

**10 верасня** - 90 гадоў з дня нараджэння **Мікалая Васільевіча Бірылы** (1923-1992), мовазнаўцы.

**13 верасня** - 130 гадоў з дня нараджэння **Янкі Былінь** (сапр. Іван Семашкевіч, 1883-1955), паэта, драматурга.

**15 верасня** - 10 гадоў таму ў Менску, на плошчы Свабоды, адбылося ўрачыстае адкрыццё занава пабудаванай ратушы.

**20 верасня** - 110 гадоў з дня нараджэння **Наталлі Арсенневай.**

**20 верасня** - 70 гадоў з дня нараджэння **Ніны Мацяш** (1943-2008), паэтэсы, драматурга, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

**24 верасня** - 120 гадоў з дня нараджэння **Паўліны Мядзёлкі** (1893-1974), мемуарыста, заслужанага дзеяча культуры БССР.



**25 верасня** - 100 гадоў з дня нараджэння **Сяргея Грахоўскага** (1913-2002), пісьменніка, заслужанага работніка культуры Беларусі.

**25 верасня** - 75 гадоў **В.М. Целешу**, мастаку, краязнаўцу фалькларысту.

**26 верасня - Еўрапейскі дзень моў.**

**27 верасня** - 110 гадоў з дня нараджэння **В.З. Харужай** (1903-1942).

**Верасень** - 60 гадоў таму (1953 г.) адкрыта **Менская Суvoраўская вайсковая вучэльня.**

**Кастрычнік**

**1 кастрычніка** - 110 га-доў з дня нараджэння **Алеся Змагара** (сапр. А. Х. Яцэвіч, 1903- 1995), пісьменніка, драматурга, публіцыста.

**7 кастрычніка** - 225 гадоў з дня нараджэння **Івана Насовіча** (1788-1877), літаратара, мовазнаўца, лексікографа, фалькларыста.



**7 кастрычніка** - 70 гадоў з дня нараджэння **Я.П. Жыпілы** (1934-1999), народнага артыста Беларусі.

**11 кастрычніка** - 100 гадоў з дня нараджэння **Эдзі Агняцвет** (сапр. Эдзі Сямёнаўна Каган, 1913-2000), паэтэса.

**13 кастрычніка** - 125 гадоў з дня нараджэння **Язэпа Драздовіча** (1888-1954), мастака, скульптара.

**14 кастрычніка** - 110 гадоў з дня нараджэння **Лявона Рыдлеўскага** (1903-1953) палітычнага і грамадскага дзеяча.

**14 кастрычніка** - 110 гадоў таму (1903 г.) у Слуцку нарадзіўся **Сямён Косберг** (стваральнік ракет, авіяканструктар).

**18 кастрычніка** - 120 гадоў з дня нараджэння **У. І. Уладзімірскага** (сапр. Малейка 1893- 1971), акцёра, народнага артыста СССР.

**19 кастрычніка** - 25 гадоў таму (1988 г.) у Менску створаны арганізацыйны камітэт **"БНФ за перабудову "Адраджэньне"**.

**20 кастрычніка** - 280 гадоў з дня нараджэння **Адама Тадэвуша Станіслава Нарушэвіча** (1733-1796), гісторыка, паэта, рэлігійнага дзеяча.

**22 кастрычніка** - 80 гадоў з дня нараджэння **І.М. Дабралюбава** (1933-2010), кінарэжысёра, сцэнарыста, Народнага артыста Беларусі.

**23 кастрычніка** - 190 гадоў з дня нараджэння **Адам Плуга** (сапр. Антон Антонавіч Пятровіч, 1823-1903), паэта, празаіка, журналіста.

**24 кастрычніка** - 85 гадоў з дня нараджэння **А.Я. Супруна** (1928-1999), мовазнаўца.

**25 кастрычніка** - 80 гадоў з дня нараджэння **Н.І. Шчаснай,** мастачкі, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

**26 кастрычніка** - 175 гадоў з дня нараджэння **М. В. Радзевіча** (1838 - пасля 1917), публіцыста, крытыка, педагога, этнографа.

**29 кастрычніка** - 75 гадоў з дня нараджэння **Янкі Саламевіча**, літаратуразнаўца, краязнаўца, бібліёграфа, перакладчыка.

**Лістапад**

**1 лістапада** - 80 гадоў з дня нараджэння **Вячаслава Адамчыка** (1933-2001), празаіка.

**7 лістапада** - 75 гадоў з дня нараджэння **В.У. Блакіта** (сапр. Болтач, 1938-2007), празаіка.

**8 лістапада** - 130 гадоў з дня нараджэння **Вацлава Ластоўскага** (1883-1938), грамадска-палітычнага дзеяча, гісторыка, пісьменніка.

**8 лістапада** - 110 гадоў з дня нараджэння **Міхася Явара** (сапр. М.А. Карась, 1903-1933), паэта.

**9 лістапада** - 155 гадоў з дня нараджэння **У.К. Стукаліча** (1858-1918), гісторыка, літаратуразнаўца.

**8 лістапада** - 155 гадоў з дня нараджэння **Тадэвуша Урублеўскага** (1858-1925), адваката, публіцыста, грамадскага дзеяча.

**8 лістапада** - 75 гадоў з дня нараджэння **Івана Сачанкі** (1938 г.), гісторыка, журналіста.

**12 лістапада** - 190 гадоў з дня нараджэння **П. М. Шпілеўскага** (1823-1861), этнографа, пісьменніка.

**12 лістапада** - 120 гадоў з дня нараджэння **Апалікоза Фларыянавіча Пупко** (1893-1984), майстра разьбы па дрэве ў г.п. Івянец.

**16 лістапада** - 125 гадоў з дня нараджэння **Вінцэся Гадлеўскага** (1885-1942), грамадскага і рэлігійнага дзеяча.

**18 лістапада** - 130 гадоў з дня нараджэння **Язэпа Лёсіка** (1883-1940), мовазнаўца, пісьменніка, педагога, акадэміка АН БССР, грамадскага дзеяча.



**21 лістапада** - 120 гадоў з дня нараджэння **У.М. Страмінскага** (1893-1952), мастака.

**26 лістапада** - 70 гадоў таму (1943 г.) савецкія войскі вызвалілі першы абласны цэнтр Беларусі - г. **Гомель**.

**27 лістапада** - 110 гадоў з дня нараджэння **Піліпа Пестрака** (1903-1978), пісьменніка

**30 лістапада** - 225 гадоў з дня нараджэння **К.А. Буйніцкага** (1788-1878), пісьменніка, публіцыста, краязнаўца.

**Снежань**

**4 снежня** - 10 гадоў таму (2003 г.) Канстытуцыйны Суд РБ прызнаў, што на практыцы **парушаецца баланс ужывання беларускай і рускай моваў**. Ён прапанаваў Палаце прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу ўнесці змены ў заканадаўства для падтрымкі беларускай мовы. Але за 10 гадоў парламентам нічога не зроблена па гэтай прапанове.

**10 снежня** - 80 гадоў таму (1933 г.) была заснавана **Урадавая бібліятэка** імя М. Горкага з 1994 г. мае назву "Прэзідэнцкая бібліятэка Рэспублікі Беларусь"

**16 снежня** - 110 гадоў з дня нараджэння **І.В. Ахрэмчыка** (1903-1971), жывапісца, народнага мастака БССР.

**16 снежня** - 75 гадоў з дня нараджэння **Эдуарда Канстанцінавіча Агуновіча** (1938 г.), мастака.

**23 снежня** - 75 гадоў таму (1938 г.) створаны **Беларускі саюз мастакоў**.

**24 снежня** - 215 гадоў з дня нараджэння **Адама Міцкевіча** (1798-1855), паэта, публіцыста грамадскага дзеяча.

**24 снежня** - 100 гадоў з дня нараджэння **Аляксея Кулакоўскага** (1913-1986), празаіка.

**26 снежня** - 120 гадоў з дня нараджэння **Яўгена Цікоцкага** (1893-1970), кампазітара, народнага артыста СССР.

**27 снежня** - 90 гадоў з дня нараджэння **А.С. Вялюгіна** (1923-1994), паэта, кінадраматурга.

**Снежань** - 100 гадоў таму назад быў падрыхтаваны да друку **"Вянок"** М. Багдановіча

**У 2013 годзе спаўняецца:**

**1700 гадоў Міланскага эдыкту** імператара Канстанціна.

**1150 гадоў** з часу стварэння славянскай азбукі (**кірыліцы**).



**900 гадоў** з дня нараджэння **Кірылы Тураўскага** (1113-1190), асветніка, багаслова.



**790 гадоў** з часу заснавання горада **Нясвіжа**.

**690 гадоў** з часу заснавання горада **Ліды**.

**600 гадоў** ад часу першага пісьмовага ўспаміну пра **Ваверку** Лідскага раёна.

**450 гадоў** таму назад у адной з Берасцейскіх друкарняў на сродкі Мікалая Радзівіла Чорнага выдадзена **"Берасцейская Біблія"**.

**400 гадоў** таму выдадзена **карта Т. Макоўскага**.

**280 гадоў** з дня нараджэння **Антонія Тызенгаўза** (1733-1785), дзяржаўнага і грамадскага дзеяча ВКЛ, асветніка, мецэната.

**80 гадоў** таму (1933 г.) пабудаваны ў Менску **Дом Ўраду.**

**75 гадоў** таму быў створаны **Ансамбль песні і танцу** Беларускай вайсковай акругі (цяпер Акадэмічны ансамбль песні і танцу Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь).

**30 гадоў** з часу заснавання часопіса **"Мастацтва"**.

**25 гадоў** таму назад завершана выданне **"Збору помнікаў гісторыі і культуры"** ў 8 тамах.

**15 гадоў** таму створана Міністэрства па надзвычайных сітуацыях **(МНС)** Беларусі.

**10 гадоў** таму завершана **газіфікацыя Палесся**, якая пачалася ў 1973 г.

**5 гадоў** таму (2008 г.) на Нёмане пачалося будаўніцтва **Гарадзенскай ГЭС**.

У Менску адкрыты спартыўны комплекс **"Мінск-арэна"** (веладром).

# Аднадзённы пост. Малітва. Пост Еўхарыстычны

Пост мае вялікую сілу, ён арганізоўвае чалавека, выхоўвае вытрымку, мэтанакіраванасць і правільную самаацэнку дзеянняў у духоўным вымярэнні. Хто пасціцца, той прытрымліваецца духоўнай праведнасці і чалавечай культуры. Нават кароткі аднадзённы пост карэнным чынам мяняе чалавека знутры, мяняе яго выгляд і паводзіны, вяртае да праведнага і здаровага жыцця.

**Аднадзённы пост** быў вядомы на Святой Зямлі ўжо ў глыбокай старажытнасці. На працягу аднаго дня пасцілі яўрэі, якія адмовіліся ад культу Ваала і Астарты. У Бібліі мы чытаем: *"І сказаў Самуіл* [прарок] *усяму дому Ізраілевага: калі вы сэрцам сваім звяртаецеся да Госпада, то выкіньце ... багоў чужаземных і Астарт і схіліце сэрцы вашы Госпаду, і служыце Яму аднаму ... І выкінулі сыны Ізраілевы Ваалаў і Астарт і сталі служыць аднаму Госпаду ... І сабраліся ў Масіфу ... і пасціліся ў той дзень, кажучы: сагрэшылі мы перад Госпадам"* (1 Цар. 7, 1-6).

На працягу дня, з усходу сонца да захаду, як было прынята, пасцілі сыны Ізраілевы перад бітвай з сынамі Веніямінавымі. *"Тады ўсе сыны Ізраілевы і ўвесь народ ... прыйшлі ў дом Божы і, седзячы там, плакалі перад Госпадам, і пасціліся ў той дзень да вечара "* (Суд. 20, 26), - сказана ў Святым Пісанні.

Такім чынам, са сказанага вышэй відаць, што пост праяўляе сябе эфектыўным антыстрэсавым інструментам, ён аблягчае прыняцце важнейшых рашэнняў, з'яўляецца механізмам для іх рэалізацыі. Гэта праявілася ўжо на першых этапах развіцця ў невялікіх плямёнах Ізраіля і Іудзеі.

Трэба адзначыць, што пра пасты ў Бібліі прыгадваецца 72 разы.

Святое Пісанне бачыць у посце дабро, якое дапамагае чалавеку супрацьстаяць злу, дапамагае вяртанню да Госпада Бога.

Новазапаветная традыцыя працягвае старазапаветную. У "Дзідахі", раннехрысціянскім творы І ст., гаворыцца пра пост у сераду і пятніцу ўсяго года як днях, звязаных з крыжовымі пакутамі Збавіцеля Ісуса Хрыста.

Сапраўды, пост у сераду і пятніцу - адна са старажытнейшых традыцый хрысціянскай Усяленскай Царквы, да якой мы настолькі прывыклі, што большасць вернікаў проста нікол не задумвалася аб тым, як і калі ён узнік. А пост гэты ўпершыню ўстанавілі вернікі-хрысціяне Сірыі ў пач. І ст., аб чым паведамляецца ў важным хрысціянскім "Вучэнні дванаццаці Апосталаў" ("Дзідахі").

Вядомы філосаф і педагог Арыген (каля 185 г., г. Александрыя - 253 г., г. Тыр) называў сераду і пятніцу поснымі днямі, і сам у гэтыя дні пасціўся. А святцель Афанасій Вялікі паведамляе, што *"чалавек, які дазваляе сабе есці скаромнае ў сераду і пятніцу, таксама распінае Госпада".*

Час посту - не выпадковыя дні. Серада нагадвае нам пра здраду Іуды Госпаду нашаму Ісусу Хрысту. У Евангеллі паводле Св. Матфея чытаем: *"Архісвятары і кніжнікі вышуквалі спосаб, каб загубіць Яго* [Ісуса Хрыста]*, але баяліся людзей. Тады сатана пранік у Іуду, званага Іскарыётам, аднаго з Дванаццаці. Той пайшоў і дамовіўся з архісвятарамі і начальнікамі варты, якім чынам выдаць Яго"* (Лк. 22, 2-4).

У пятніцу ж адбылася такая падзея: *"Потым павялі Яго* [Ісуса Хрыста] *на ўкрыжаванне ... Там на Галгофе далі Яму віно, змешанае са смірнаю, але Ён не ўзяў. Укрыжавалі Яго і падзялілі між сабою адзенне Яго паводле жэрабя... І быў надпіс з павеДамленнем віны Яго так пададзены: Валадар Іудзейскі. Разам з ім укрыжавалі двух злачынцаў"* (Мк. 15, 20-27).

У Евангеллі паводле Св. Іаана сказана: *"З-за таго, што гэта была Пятніца, дык каб не пакідаць цел на крыжах у суботу, ... Іудзеі прасілі Пілата, каб укрыжаваным палам галені і знялі іх целы. Прыйшлі жаўнеры... Калі падышлі да Ісуса і ўбачылі, што Ён памёр ужо, не ламалі галеняў Яго, толькі адзін з жаўнераў дзідай прабіў Яму бок, і адразу пацякла кроў і вада "* (Ін. 19, 31-34).

Пост мабілізуе духоўную сілу малітвы ў славу Госпада. Пра малітву вось што сказаў лаўрэат Нобелеўскай прэміі Алексіс Карэль:

***Малітва** - самая моцная форма энергіі, якая выпраменьваецца чалавекам. Яна з'яўляецца такой жа рэальнай сілай, як і зямное прыцяжэнне. Малітва, як радый у прыродзе, з'яўляецца крыніцай святла і энергіі. У малітве людзі імкнуцца павялічыць сваю абмежаваную часам жыццёвую энергію, звяртаючыся да Бясконцай крыніцы ўсёй энергіі ў Сусвеце. Калі мы молімся, мы звязваем сябе з невычэрпнай рухальнай сілай, якая прыводзіць у рух увесь Сусвет. Мы молімся, каб хоць частка гэтай сілы перайшла да нас.*

Нават калі мы нешта просім Бога, нашы чалавечыя недахопы кампенсуюцца і мы становімся мацнейшымі і здаравейшымі. Звяртаючыся да Бога ў шчырай малітве, мы ўдасканальваем сваю душу і цела. Немагчыма, каб хоць бы адно імгненне малітвы не прынесла станоўчых вынікаў любому мужчыне ці жанчыне.

**Пост Еўхарыстычны** (лац. ieiunium eucharisticum) - устрыманне ад прыёму ежы і пiцця перад Святым Прычасцем (Кар. 11, 20; 2 Пят. 2, 13; Дзн. 2, 46).

Таінства Прычасця ўстаноўлена Самім Ісусам Хрыстом на апошняй Пасхальнай вячэры (Мф. 26, 26-29; Мк. 14, 22-25; Лк. 22, 19-21). Яно неабходна кожнаму хрысціяніну для выратавання, паколькі Гасподзь сказаў: *"Хто спажывае Цела Маё і п'е Кроў Маю, той мае жыццё вечнае, і Я ўваскрэшу яго ў дзень апошні"* (Ін. 6, 54).

Раннія хрысціяне еўхарыстычны пост не практыкавалі, Святое Прычасце ў іх атаясамлівалася з брацкімі вячэрамі, якія ў многім падобны да іудзейскай святочнай трапезы.

Брацкія вячэры, ці вячэры любові, праводзіліся ў хрысціянскіх цэрквах з добраахвотных ахвярапрынашэнняў. Яда перад вячэрай асвячалася. Яна складалася звычайна з гародніны, рыбы, мясных і мучных вырабаў. Не выключалася і віно.

Урачыстасць звычайна пачыналася з абмывання рук, а затым і малітвы. Падчас вячэры спяваліся псалмы і іншыя святыя песні, чыталіся і тлумачыліся месцы са Святога Пісання. Пасля заканчэння рабіўся грашовы збор для бедных, удоў, сірат. Усё канчалася малітвай і брацкім цалаваннем.

Яўныя грэшнікі і тыя, хто публічна каяўся, да вячэры не дапускаліся.

У старажытнай хрысціянскай Царкве такія брацкія вячэры былі даволі распаўсюджанымі і, як ужо гаварылася, былі раўназначны Прычасцю.

Еўхарыстычны пост распаўсюджваўся ў Царкве паступова паміж ІІІ і IV стст., а першымі яго пачалі практыкаваць вернікі Паўночнай Афрыкі.

У канцы IV ст. 28-ае правіла Гіпонскага сабору (393 г.) і 29-ае правіла ІІІ Карфагенскага сабору (397 г.) увялі патрабаванне, каб Прычасце прымалася толькі нашча.

У VII ст. шэраг канонаў, прынятых на розных намесных саборах Захаду і Усходу, сведчаць, што Святое Прычасце нашча стала паўсюднай нормай.

Першы афіцыйны дазвол змякчыць патрабаванні да Еўхарыстычнага посту і скараціць яго ў пэўных сітуацыях даў Папа Пій XII у Апостальскай Канстытуцыі Christus Dominus (6.01.1953 г.). Тлумачэнне было дадзена ў Настаўленнях Свяшчэннай Канцылярыі. У прыватнасці, перад Святым Прычасцем у вячэрні час было рэкамендавана ўстрымлівацца ад ежы і алкагольных напіткаў на працягу трох гадзін, а на працягу адной гадзіны - ад любых напіткаў. У тым жа дакуменце ўводзілася паслабленне для хворых і святароў, якія павінны былі праводзіць набажэнства ў позні час. У хуткім часе ўсе нормы, якія рэкамендаваліся для вячэрніх мес, сталі ва Усяленскай Царкве універсальнымі для ўсіх, хто прычашчаецца ў любы час сутак (ад 25.03.1957 г.).

Нарэшце, 21.11.1964 г. (у дзень закрыцця 3-яй сесіі Ватыканскага сабору) Папа Павел VI аб'явіў аб скарачэнні мінімальнай працягласці Еўхарыстычнага посту перад прычашчэннем да адной гадзіны. Гэтая норма замацавана ў 1983 г. (CIC919, §1).

У Праваслаўнай Царкве строгі Еўхарыстычны пост застаецца ў сіле. У XX ст. некаторыя архісвятары і пастары пачалі ўводзіць правядзенне Літургіі асвячэння Дароў, а таксама Літургіі Вялікага чацвярга ў вячэрні час, каб большая колькасць вернікаў мела магчымасць на іх прычасціцца. У гэтых выпадках пэўная працягласць еўхарыстычнага посту рэкамендуецца ў парадку прыватнай пастарскай ініцыятывы.

*(Працяг будзе.)*

*Ксёндз-пробашч Мінскага касцёла Св. Сымона і Св. Алены У. Завальнюк, магістр тэалогіі, кандыдат гістарычных навук.*

# Віншаванні на адрас ТБМ

*Паштоўка ад Івонкі Сурвілы*

*Шчаслівых святаў і цудоўнага Новага года!*
***Ітан А. Голдрыч.***
*Часовы паверааны ў справах ЗША.*
*Амбасада ЗША, Мінск.*

*Вінуем Вас з самым яскравым і радасным святам.*
*Жадаем Вам росквіту і дабрабыту.*
*Няхай усе Вашыя намаганні заўсёды ператвараюцца ў дасягненні.*
***Кампанія "Свіат".***

*Шчыра віншуем з Раством і Новым Годам!*
***Амбасада Італіі.***

*"Бо нарадзілася нам Дзіця, дадзены Сын нам, і ўладарніцтва на Яго плячах... "(Іс.9:5)*

**Шаноўны сп. Алег!**
**Віншую Вас са святам Нараджэння Хрыстовага!**

У гэты час Бог паслаў у свет Свайго Сына, каб народ, які жыў у цемры, убачыў святло Яго збаўлення. Сёння Зорка нашага Госпада і Збаўцы таксама ззяе для беларускага народа і Божыя абяцанні спаўняюцца для нас.

Жадаю, каб Госпад Ісус дабраслаўляў Ваша штодзённае служэнне Яму і Яго Валадарства пашыралася ў нашай зямлі!

**Станіслаў Акінчыц.**

*Шаноўныя калегі, дарагія сябры!*
*Беларуская асацыяцыя журналістаў шчыра віншуе вас з радаснымі зімовымі святамі.*
*Зычым добрага настрою, творчага натхнення і душэўнага спакою!*
*Няхай будучы год прынясе ўсім нам толькі добрыя навіны!*

***Шаноўныя сябры, калегі!***
*Шчыра віншую з Калядамі і Новым годам!*
*Здароўя Вам і Вашым родным, любові, дабрабыту, шанцавання і ажыццяўлення планаў.*
*Шчаслівых святаў! Хай яны натхняць Вас аптымізмам і сілкуюць імпэтам!*
*Жыве Беларусь!*

***Аляксандр Мілінкевіч,***
*старшыня Руху "За Свабоду".*





# Мікалаю Прыгодзічу - 60

У першы дзень новага года адзначыў свой шасцідзесяцігадовы юбілей загадчык кафедры гісторыі беларускай мовы філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта **Мікалай Рыгоравіч Прыгодзіч.**



Юбіляр нарадзіўся ў вёсцы Лышча Пінскага раёна Берасцейскай вобласці. Пасля заканчэння ў 1970 г. сярэдняй школы паступіў на філалагічны факультэт БДУ, усё далейшае жыццё і працоўная дзейнасць Мікалая Рыгоравіча звязаны з універсітэтам. Атрымаўшы ў 1975 г. дыплом па спецыяльнасці "Выкладчык беларускай і рускай моў і літаратур" і папрацаваўшы некаторы час, Мікалай Рыгоравіч стаў аспірантам. Яго навуковай працай кіраваў доктар філалагічных навук прафесар Леў Шакун. У 1982 г. М.Р. Прыгодзіч абараніў кандыдацкую дысертацыю "Складаныя прыметнікі ў старабеларускай мове". Вынікам паглыблення распачатага даследавання па гісторыі словаўтварэння стала паспяхова абароненая ў 2000 г. доктарская дысертацыя "Словаскладанне ў гісторыі беларускай мовы". У 2006 г. М.Р. Прыгодзіч атрымаў званне прафесара.

З часу рэарганізацыі ў 1993 годзе былой кафедры беларускай мовы юбіляр узначальвае кафедру гісторыі беларускай мовы.

М.Р. Прыгодзіч распрацаваў і працяглы час чытае вучэбны курс "Беларуская палеаграфія", спецкурс "Актуальныя праблемы беларускага пісьменства", а таксама вядзе спецсемінар "Стыль і мова помнікаў старабеларускага пісьменства" і студэнцкі гурток "Палімпсест". Пад яго кіраўніцтвам на кафедры і факультэце была значна перабудавана сістэма падрыхтоўкі філолагаў цыкла гістарычна-мовазнаўчых дысцыплін, распрацаваны і ўведзены ў навучанне асобныя курсы, спецкурсы і спецсемінары. Мікалай Рыгоравіч удзяляе ўвагу працы над адукацыйным стандартам па спецыяльнасці "Беларуская філалогія", тыпавых праграмах па вучэбных курсах "Беларуская мова (прафесійная лексіка)", "Беларуская палеаграфія", "Гісторыя беларускага мовазнаўства".

Плён працоўнай дзейнасці М.Р. Прыгодзіча - гэта больш за 300 навуковых прац па праблемах гісторыі беларускай мовы і яе сучаснага стану, сярод якіх манаграфіі "Шчодрасць слова" (1990), "Словаскладанне ў беларускай мове" (2000), "Беларускае мовазнаўства" (2006), "Беларуская мова ў працах замежных лінгвістаў" (у суаўтарстве, 2010), "Герман Бідэр як даследчык беларускай мовы" (у суаўтарстве, 2007), слоўнікі "Асобна, разам, праз дэфіс: Слоўнік-даведнік" (1994), "Старабеларускі лексікон" (у суаўтарстве, 1997), "Пішам без памылак: Асобна, разам, праз дэфіс" (2002), "Слоўнік сучаснай беларускай мовы" (у суаўтарстве, 2009; 2-е выданне ў 2010), больш за дзясятак вучэбных і навукова-метадычных дапаможнікаў, навукова-папулярныя выданні. Як навуковы кансультант і аўтар М.Р. Прыгодзіч удзельнічаў у падрыхтоўцы "Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі", "Беларускай энцыклапедыі" (у 18 тамах), галіновай энцыклапедыі "Беларуская мова", энцыклапедыі "Республика Беларусь".

Мікалай Рыгоравіч выконвае шматлікія арганізацыйныя абавязкі: ён з'яўляецца членам Вучонага савета філалагічнага факультэта, намеснікам старшыні Камітэта па прысуджэнні прэміі імя У. Пічэты (філалогія), членам секцыі філалогіі вучэбна-метадычнага аб'яднання ВНУ Рэспублікі Беларусь, Старшынёй экспертнага савета па мовазнаўству Вышэйшай атэстацыйнай камісіі Рэспублікі Беларусь, а таксама членам рэдкалегій часопісаў "Веснік БДУ" (серыя IV), "Беларуская мова і літаратура", першым намеснікам галоўнага рэдактара часопіса "Роднае слова".

М.Р. Прыгодзіч - арганізатар і ўдзельнік шматлікіх міжнародных навуковых мерапрыемстваў у Венгрыі, Германіі, Польшчы, Расіі, Украіне. Ён выступіў каардынатарам ініцыяванага Апольскім універсітэтам (Польшча) міжнароднага праекта "Змены ў сучасных славянскіх мовах: 1945-1995", які курыраваўся ЮНЕСКА і Міжнародным камітэтам славістаў. У межах гэтага праекта пад яго навуковым кіраўніцтвам выйшла калектыўная манаграфія "Беларуская мова" (1998). М.Р. Прыгодзіч быў дакладчыкам на XIII Міжнародным з'ездзе славістаў (Славенія, Любляна), уваходзіць у кіраўнічыя органы Міжнароднага камітэта славістаў, Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. З 2011 г. Мікалай Прыгодзіч з'яўляецца кіраўніком беларускай часткі ініцыяванага Альдэнбургскім універсітэтам (Германія) фундаментальнага агульнаславістычнага праекта "Германскія запазычанні ў славянскіх мовах", мэта якога - як мага больш поўная рэгістрацыя і апісанне германізмаў, ужываных у славянскіх мовах на працягу ўсёй іх гісторыі і ў сучаснасці.

Мікалай Рыгоравіч клапоціцца пра ўшанаванне памяці і захаванне навуковай спадчыны лінгвістаў ранейшых пакаленняў. З яго ініцыятывы кафедра арганізоўвала навуковыя канферэнцыі да юбілейных дат з дня нараджэння І.І.Насовіча, М.А. Жыдовіч, Л.М. Шакуна; навуковыя чытанні, прысвечаныя памяці А.І. Жураўскага, Е.С. Мяцельскай і інш.

Мікалай Рыгоравіч умее і любіць працаваць з моладдзю, ён ведае, як і чым зацікавіць студэнтаў, як дапамагчы ім знайсці свой шлях у навуцы. Пад навуковым кіраўніцтвам Мікалая Рыгоравіча напісаны не адзін дзясятак курсавых, дыпломных і магістарскіх прац, частка з якіх ператварылася ў больш буйныя даследаванні. Пад яго кіраўніцтвам абаранілі кандыдацкія дысертацыі шэсць чалавек.

Актыўная працоўная і грамадская дзейнасць М.Р. Прыгодзіча адзначана дзяржаўнымі ўзнагародамі - ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга (1986 г.), нагрудным знакам "Выдатнік адукацыі Рэспублікі Беларусь" (2003 г.), а таксама Ганаровымі граматамі Міністэрства адукацыі, Вышэйшай атэстацыйнай камісіі Рэспублікі Беларусь, Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта і інш.

Калегі па кафедры жадаюць юбіляру добрага здароўя, новых навуковых і педагагічных здзяйсненняў, здольных вучняў!



*Кафедра гісторыі беларускай мовы Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.*

# Microsoft выпусціла беларускамоўную версію Windows

Кампанія Microsoft нарэшце скончыла працу над беларускім моўным пакетам для аперацыйнай сістэмы Windows 8. Ён даступны ў цэнтры абнаўлення. Спампоўванне бясплатнае.

Беларускамоўны пакет можа быць усталяваны на расійскамоўную ці англамоўную версію аперацыйнай сістэмы. Аднак пакуль што даступны толькі для Windows 8.

Калі вы працуеце ў гэтай сістэме, трэба націснуць "Налады - Панель кіравання - Мова". Там абраць "Беларуская", перайсці ў яе "Параметры" і спампаваць новы моўны пакет. Ён займае 3,8 мегабайта. Сам працэс яго ўстаноўкі займае каля 7-8 хвілін. Пасля перазагрузка - і нас нарэшце сустракае беларускамоўны экран.

Недаперакладзеных фраз яшчэ вельмі многа. "Праграмы і кампаненты" і "Уліковыя запісы карыстальніка" напісаныя па-беларуску, а вось "Клавиатура" і "Мышь" - чамусьці не.

Абдрукоўвак пакуль што не бачна, але гэта на першы погляд.

Моўны пакет зроблены наркамаўкай.

*Ягор Марціновіч.*

# Абвестка!

Да ведама сяброў Рады ТБМ, усіх сяброў і прыхільнікаў ТБМ.

У адпаведнасці з рашэннем Сакратарыяту ТБМ чарговая Рада ТБМ адбудзецца ў Менску 20 студзеня 2013 года ў сядзібе ТБМ.

Рэгістрацыя сяброў Рады з 10.00.

Пачатак працы - 11.00.

Парадак дня Рады:

1. Справаздача кіраўніцтва ТБМ аб працы арганізацыі за 2012 год.
2. Прыняцце Плана дзейнасці ТБМ на 2013 год.
3. Прыняцце Пастановы ТБМ аб памеры сяброўскіх складак на 2013 год.
4. Аб зменах у складзе Сакратарыяту ТБМ.

У газеце "Наша слова" ад 24 кастрычніка 2012 г. № 43 надрукаваны праект плана працы ТБМ на 2013 год, ухвалены на Радзе ТБМ у кастрычніку 2012 г. Таму просім да 15 студзеня 2013 года даслаць свае прапановы па ўдасканаленні гэтага плана.

Сакратарыят ТБМ.




## Ахвяраванні на ТБМ

1. Барт-Юрэвіч Надзея - 100 еўра, Германія
2. Леўчанка С.Н. - 300 000 р., г. Менск
3. Бусел Мікола - 20 000 р., Акцябрскі р-н
4. Бамбіза Мікола - 200 000 р., г. Менск
5. Вайцэховіч Н.Ю. - 10 000 р., г. Менск
6. Раманава Ж.Л. - 10 000 р., г. Менск
7. Павідайка В.М. - 70 000 р., г. Менск
8. Цімошык Л.І. - 50 000 р., г. Менск
9. Макрыцкі І.В. - 20 000 р., г. Менск
10. Прылішч І.А. - 35 000 р., г. Менск
11. Талуць Станіслаў - 40 000 р., г. Гомель
12. Вяргей Валянціна - 65 000 р. + 10 дол., г. Менск
13. Лапенка Аляксей - 10 000 р., г. Менск
14. Мускі Барыс - 10 000 р., г. Менск
15. Герасімовіч Валянціна - 10 000 р., г. Менск
16. Сіняк Павел - 10 000 р., г. Менск
17. Севасцьянава Ганна - 10 000 р., г. Менск
18. Шкірманкоў Фелікс - 50 000 р., г. Слаўгарад
19. Раманік П.І. - 100 000 р., г. Менск
20. Рогач П.Н. - 10 000 р., г. Менск
21. Невядомы - 50 000 р., г. Менск
22. Пухоўская Юлія - 20 000 р., г. Менск
23. Паўловіч - 40 000 р., г. Менск
24. Сцяпук П.А. - 50 000 р., г. Менск
25. Батвінаў І.С. - 30 000 р., г. Орша
26. Малько Пятро (складкі кафедры бел. мовы Горацкай Акадэміі) - 150 000 р.
27. Якшэвіч Алег - 100 000 р., г. Менск
28. Легушоў Алег - 50 000 р., ст. Ясень, Асіповіцкі р-н

Дзейнасць ГА "ТБМ імя Францішка Скарыны" па наданні роднай мове рэальнага статуса дзяржаўнай вымагае вялікіх выдаткаў. Падтрымаць ТБМ – справа гонару кожнага грамадзяніна краіны.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас, вул. Румянцава, 13, г. Мінск, 220034, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ №3015741233011 у Аддзяленні № 539 ААТ "Белінвестбанка" код 739 (УНП 100129705) праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк.

Паведамленне

Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705
атрымальнік плацяжу
Аддзяленне № 539 ААТ "Белінвестбанк"
назва банка
Рахунак атрымальніка 3015741233011 Асабовы рахунак 739

(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | Дата | Сума |
|---|---|---|
| Ахвяраванні на дзейнасць ТБМ | | |
| | Пеня | |
| | Разам | |

Касір

Плацельшчык

Квітанцыя

Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705
атрымальнік плацяжу
Аддзяленне № 539 ААТ "Белінвестбанк"
назва банка
Рахунак атрымальніка 3015741233011 Асабовы рахунак 739

(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | Дата | Сума |
|---|---|---|
| Ахвяраванні на дзейнасць ТБМ | | |
| | Пеня | |
| | Разам | |

Касір М.П.

Плацельшчык

*Леанід Лыч*

# Ён родам з Сіняўкі:

## нацыянальныя прыярытэты ў асабістым жыцці і навуковай дзейнасці Васіля Тоўстага (Талстога)

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэднім нумары.)*

З другога паўгоддзя 1965 года я заміж газеты "Советская Белоруссия" выпісаў "Звязду", а жонка маскоўскую "Учительскую газету" замяніла на беларускую "Настаўніцкую газету". Непрыкметна пачалася беларусізацыя нашай сям'і. Матэрыялы "Звязды" я чытаў уголас, жонка гэта рабіла праз сябе. Вельмі хутка адчуў, як да мяне вяртаюцца і беларуская лексіка, і беларускае вымаўленне. Усяму гэтаму шмат увагі надаў у час аднаго з чарговых адпачынкаў. У тыя гады мы разам з жонкай адпачывалі толькі ў маёй роднай вёсцы Магільнае Уздзенскага раёна. З мамай (усё жыццё называў яе на Вы) я ніколі не гаварыў па-руску, бо яны, праводзячы мяне ў 1945 годзе на вучобу ў Менск, вельмі настойліва прасілі, як буду прыязджаць дамоў, размаўляць з землякамі толькі па-мясцоваму, бо інакш будуць смяяцца, дакараць. На гэтыя мамiны словы я ніколі не забываўся, і калі знаходзіўся ў сваёй роднай хаце, усяляк стараўся не ўжываць гарадскіх (рускіх) слоў, асабліва пры маме.

Калі вяртаўся з адпачынку ў Менск, вёз, як пазней пераканаўся, самы дарагі для Васі падарунак: цвёрдую рашучасць стаць беларускамоўным, праўда, на пачатку толькі на калідоры, у вузкім коле сяброў, бо для публічнага выступлення ой як яшчэ многа не ставала. Дарагі сябра быў бясконца рады ад пачутага. На маю моўную трансфармацыю імгненна адрэагавалі, прычым у бальшыні выпадкаў пазітыўна, самыя блізкія калегі па працы. Нацыянальныя ж нігілісты пазіралі са здзіўленнем, а некаторыя з іх назвалі мяне "белай варонай". А быў і такі з багатым жыццёвым досведам чалавек, што раіў з ужываннем беларускай мовы пачакаць да абароны дысертацыі. Такую прапанову падтрымаў і Вася, парэкамендаваў пакуль што карыстацца родным словам толькі з надзейнымі сябрамі. Мірыцца з такімі, лічу, цалкам абгрунтаванымі абмежаваннямі давялося нядоўга, бо ў канцы чэрвеня 1966 года абараніў кандыдацкую дысертацыю і праз кароткі тэрмін атрымаў на рукі адпаведны дакумент.

Фармальна я выйшаў на навуковы ўзровень Васіля. Але толькі фармальна, бо на той час ён, акрамя вышэйзгаданай манаграфіі, меў і іншыя публікацыі, пераважна ў перыядычным друку, даволі часта выступаў на канферэнцыях і сімпозіюмах, прысвечаных актуальным праблемам міжнароднага супрацоўніцтва Беларускай ССР. Росту яго папулярнасці ў свеце добра паспрыяў удзел у напісанні калектыўнай працы "Сотрудничество Белорусской ССР с социалистическими странами", якая выйшла з друку ў 1970 годзе. Я ж па інерцыі працягваў даследаваць гісторыю чыгуначнага транспарту БССР, толькі ўжо не за гады сямігодкі, а за ўвесь пасляваенны перыяд. Вася не апраўдваў мой выбар, але і рашуча не пратэставаў, бо пісаць жа сваю працу я наважыўся толькі па-беларуску, аналагу чаму яшчэ не мелася ў айчыннай гістарыяграфіі. Пісаў з вялікай ахвотай і нікольки не саграшу, калі скажу, што тлумачылася такое выбарам беларускай мовы ў якасці рабочага інструменту. Кніга выйшла з друку ў 1976 годзе пад назвай "Аднаўленне і развіццё чыгуначнага транспарту Беларускай ССР (верасень 1943-1970 гг.)". Сярод тых, каму я яе падпісаў, быў і старшы навуковы супрацоўнік Сектара гісторыі еўрапейскіх сацыялістычных краін беларускамоўны Аляксандр Пятруннікаў. Атрымаўшы з маіх рук кнігу, ён сказаў:

- Леанід Міхайлавіч, пасля гэтай кнігі Вам ужо не варта брацца за напісанне другой.

- Чаму? - пытаюся.

- А таму, што Вы ўжо ўвайшлі ў гісторыю як арыгінальны даследчык. Да Вас па вытворчай праблематыцы ніхто не пісаў навуковых прац пабеларуску і, упэўнены, ужо не напішуць.

Словы А. Пятруннікава я не прыняў усур'ёз, але што ён сканцэнтраваў іх на беларускай мове, мяне вельмі ўсцешыла і адразу ж стукнула ў голаў думка, што за ўсё гэта трэба дзякаваць майму дарагому сябру Васілю.

У той час улюбёнай тэмай нашага дыялогу з Васем было "разгорнутае" будаўніцтва камунізму. І ён, і я лічылі гэта ўтопіяй. Ні на кроплю не падзялялі хвалёную "ленінскую" нацыянальную палітыку, лічачы яе галоўным віноўнікам культурна-моўнай асіміляцыі беларусаў. Не раз партыйная арганізацыя Інстытута схіляла і Васю, і мяне да ўступлення ў яе шэрагі. У адказ мы прыводзілі цэлую абойму прычын, каб заставацца беспартыйнымі. І ўсё ж Вася здаўся. У апошні перададпачынкавы дзень (года не магу назваць), ідучы з працы, мы, як толькі маглі, "палівалі" КПСС за ўсе грахі перад народам, а калі я вярнуўся з адпачынку, даведаўся, што за дзень ці два да гэтага Вася напісаў заяву на ўступленне ў партыю. Ідучы па калідоры, заўважыў прытуленага да вакна нядаўняга крытыка бальшавіцкай партыі і тут жа адвярнуў ад яго галаву ў другі бок, каб не павітацца.

- Лёня! Лёня! - выбухнула з вуснаў будучага бальшавіка. - Што з табою? Куды ты так без аглядкі шпарыш?

Не пачуўшы ад мяне і слова, віноўнік той нязвыклай для нас сітуацыі імкліва рушыў да мяне, моцна ўхапіўся за руку і пачаў тлумачыць прычыны ўсяму ўчыненаму. А зводзіліся яны Васем да таго: калі ўсё задуманае спраўдзіцца, дык будучы камуністам, можа займу такую кіраўнічую пасаду, што буду хоць у нейкай ступені ўплываць у лепшы бок на нашае занядбалае нацыянальна-культурнае жыццё. Такое апраўданне мяне, моцна ўзбударажанага, не дужа пераканала, таму шчырай размовы паміж ужо ў нейкай ступені сумніўнымі сябрамі практычна не адбылося. Але часам у думках сам з сабою я вяртаўся да таго сюжэту і нават пагаджаўся з тым, каб і сам стаў камуністам, дык таксама мог бы выбіцца на ўплывовую прэстыжную пасаду і хоць штосьці карыснае зрабіць дзеля беларускай нацыянальнай справы. У ёй жа ў 1970-я было столькі ўсяго трагічнага, антычалавечага, ганебнага! Нацыянальны нігілізм істотна спаралізаў беларускі народ і як на дзіва - інтэлігенцыю, а бальшавіцкія ідэолагі не пераставалі трубіць пра яго нечуваны духоўны росквіт, рэальную здольнасць хоць заўтра пачаць жыць, як пры камунізме.

Вася не памыліўся ў сваіх прагнозах на асабістую кар'еру пасля ўступлення ў шэрагі КПСС. Каля дзесяці гадоў (1973-1982) знаходзіўся на пасадзе загадчыка Сектара гісторыі еўрапейскіх сацыялістычных краін Інстытута гісторыі АН БССР. Стараўся сіламі свайго калектыву даследаваць самыя актуальныя праблемы, браць на працу не толькі здольных да навуковай дзейнасці людзей, але і адданых беларускай нацыянальнай ідэі. Пад яго кіраўніцтвам у Сектары працавалі і такія асобы, што пазней сталі добра вядомымі ў краіне навукоўцамі, грамадска-палітычнымі, культурнымі дзеячамі. Сказанае ў першую чаргу можна аднесці да старшага навуковага супрацоўніка, доктара гістарычных навук Сяргея Вайтовіча (1925-1989). Сваімі манаграфічнымі працамі ён глыбока і ўсебакова паказаў удзел Беларускай ССР у міжнародным жыцці. Вось назвы толькі некаторых з іх: "БССР в борьбе за мир и сотрудничество между народами (1945-1965 гг.)", "Белорусская ССР и развивающиеся страны (1945-1970 гг.)", "В борьбе за мир и безопасность народов", "БССР в отношениях СССР с развивающимися странами (1971-1985 гг.)". Спаўна валодала навуковым патэнцыялам стаць доктарам гістарычных навук Галіна Сяргеева. І яна, напэўна, стал б, не эміграваўшы разам са сваімі дзецьмі ў Канаду. У Сектары гісторыі еўрапейскіх сацыялістычных краін Інстытута гісторыі АН БССР з 1971 года распачаў свой шлях у навуку Аляксей Кароль. Адной з галоўных прычын, што не здабыў сабе ступені доктара навук, - гэта яго актыўны ўдзел у грамадска-палітычным жыцці краіны ў гады нацыянальна-культурнага Адраджэння канца 1980 - пачатку 1990-х гадоў: намеснік старшыні Партыі народнай згоды, сакратар ЦК Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі ("Народная грамада"), галоўны рэдактар газеты "Згода", з 2002 года і па сёння галоўны рэдактар газеты "Новы час".

Пазней В.Тоўстаму ў сваім жа Сектары давялося некалькі гадоў займаць пасаду старшага навуковага супрацоўніка, а закончыў прафесійную кар'еру навуковым супрацоўнікам Аддзела гісторыі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі і грамадзянскай вайны (1986-1989 гг.). Чаму такі па-за ўсялякага сумнення таленавіты навуковец не стаў доктарам гістарычных навук, вядома, відаць, толькі аднаму яму.

Ніяк нельга назваць Васю шчаслівым бацькам і мужам. Пры ўсім жаданні і вялікім старанні ніхто з дзяцей не пайшоў яго шляхам. Асабліва шмат надзей ускладваў на сына , а той стаў афіцэрам і шмат гадоў служыў дзесьці ў Падмаскоўі. Ад некаторых знаёмых чуў, што ў яго нібыта нядаўна памёр сын. Не пашчасціла Васю і з жонкай: вельмі рана, прыкладна ў 45 гадоў, развіталася з зямным жыццём. Новай сям'і не стварыў, хаця з яго знешняй прыгажосцю, выключнай тактоўнасцю, заслужана высокім аўтарытэтам у шырокіх колах навуковай і творчай інтэлігенцыі, з гэтым не мелася б аніякіх праблем.

Дзесьці з сярэдзіны 1960-х гадоў мы з Васем ужо працавалі ў розных сектарах (аддзелах), што нікольки не адбілася на нашых заўжды сяброўскіх узаемадачыненнях. Ён шчыра радаваўся выхаду ў свет у 1976 годзе маёй згаданай вышэй манаграфіі па чыгуначным транспарце Беларусі і перажываў, што мне, каб абараніць па дадзенай праблеме доктарскую дысертацыю, патрэбна было кнігу і ўсе іншыя свае публікацыі з беларускай мовы перакласці на рускую. Такую драконаўскую практыку ўвяла ў 1975 годзе Вышэйшая атэстацыйная камісія (ВАК) пры Савеце Міністраў СССР для ўсіх навукоўцаў-гісторыкаў, што пісалі свае працы не на рускай мове. Я палічыў для сябе за вялікую знявагу, каб дзеля гэтага перакладаць кнігу з беларускай мовы на рускую і выкінуў з галавы (як аказалася не надоўга) думку працаваць на доктарскую ступень па новай тэме, пра што ведаў і В.Тоўсты. Быў ён з гэтым згодны ці не, цяжка сказаць, але цікавасць да майго прафесійнага занятку выказваў. Мяркую гэта па тым, як ён трохі пазней настойліва рэкамендаваў мне перайсці ад вывучэння эканамічнага аспекту гісторыі Беларусі (а гэта ж у нейкай ступені быў мой канёк!) да даследавання яе культуры, дзе па віне ўладаў ішоў няўмольны працэс разбурэння нацыянальных асноў гэтай галоўнай этнаўтваральнай сферы жыцця. Такога не мог не заўважыць і я, таму пасля поўнага фіяска абараніцца на ступень доктара навук па падрыхтаванай беларускамоўнай дысертацыі, усё ж вырашыў выйсці на такі навуковы ўзровень праз рускую мову. На гэты раз, а прыпаў ён на другую палову 1970-х гадоў, я ўпершыню ў сферу сваіх навуковых інтарэсаў уключыў і культурны аспект. Маё навуковае даследаванне мела назву "Ліквідацыя эканамічнай і сацыяльна-культурнай няроўнасці саюзных рэспублік: На прыкладзе Беларускай ССР (1917-1941 гг.)". І В.Тоўсты, і Л. Мірачыцкі толькі па плячы маім паляпвалі за такі выбар тэмы, просячы пры выкананні яе як мага больш увагі акцэнтаваць на культурнай праблеме, што цалкам супадала з маімі меркаваннямі. Працаваў, не ведаючы стомы, і ўжо ў пачатку 1980-х гадоў падаў рукапіс дысертацыі на абмеркаванне. Не прайшоў! Прычына: нацыяналістычны падыход да асвятлення праблемы. Падобнае пачуў і ў выдавецтве "Беларусь".

Ад далейшых спробаў стаць доктарам гістарычных навук адмовіўся. З такім жа прыгнечаным настроем працаваў і В. Тоўсты. Пасля выдадзенай у 1976 годзе кнігі "Дорогой братских культур (О культурном сотрудничестве и литературных связях белорусского и польского народов)" ім на працягу больш за дзесяць гадоў нічога саліднага не надрукавана. Пры сустрэчах - а яны заўжды былі цікавымі, запамінальнымі - размова пра доктарскія дысертацыі не вялася. З усіх размоў першай паловы 1980-х гадоў, адна, як ніякая іншая, вельмі глыбока ўрэзалася ў маю памяць. У не да канца адчыненых дзвярах майго кабінета на зыходзе працоўнага дня паказваецца Вася і кажа:

- Лёня, мне трэба сур'ёзна пагутарыць з табою.

- Ну, раз трэба, я гатоў.

Пры выхадзе з будынка Інстытута мне кінуўся ў вочы занадта ж ужо засмучаны выгляд майго сябра. Таму, як толькі выйшлі на вуліцу, адразу запытаў:

- Вася, што здарылася? Давай выкладвай хутчэй.

- Я нікому гэтага не скажу, а з табой, як з былым чэкістам, хачу падзяліцца.

- Дыканчай ты з гэтым чэкістам! Гэта так даўно было, што сёння ўжываць такое слова ў дачыненні да мяне проста недарэчна.

- Ну добра, выбачай. Дык вось, ведай і нікому не кажы. Днямі мяне выклікалі ў Камітэт дзяржаўнай бяспекі. Размова доўжылася не адну гадзіну, але чым усё гэта скончылася, не скажу. Думаю, што ты і сам здагадаешся. Хачу параіць: будзь вельмі асцярожны ў размовах з людзьмі. Сярод супрацоўнікаў нашага Інстытута дый іншых ёсць усялякія асобы. Ой, як добра праінфармаваны ў КДБ пра ўсё, што робіцца ў нас.

Тая размова цягнулася нядоўга, але пакінула добры адбітак у памяці. Мне вельмі шкада было Васі, бо моцнай псіхікай, цвёрдым характарам ён не вызначаўся. Нават і ў кантактах са мною стаў празмерна маўклівым, неахвотным на слова. Амаль ніколі на твары яго не з'яўлялася радасная, шчаслівая ўсмешка. Не ведаю, колькі б гэта яшчэ доўжылася, каб не лёсавызначальная для беларускага народа Гарбачоўская Перабудова (свядома пачынаю напісанне гэтых слоў вялікімі літарамі). Акрыяў і я, акрыяў і Вася, толькі ў меншай за мяне ступені. Я дык у сваім хатнім кабінеце на самае бачнае месца паклаў усё, што мела дачыненне да, здавалася, канчаткова адкінутай доктарскай дысертацыі. Асабліва мне з Васем падабаліся прагрэсіўныя выказванні Генеральнага сакратара ЦК КПСС Міхаіла Гарбачова па нацыянальнай культуры і родных мовах усіх савецкіх нярускіх народаў. Часта здавалася, што фармуляваў ён іх, зыходзячы з беларускіх рэалій, бо нідзе "самай прагрэсіўнай" у свеце ленінскай нацыянальнай палітыкай КПСС так страшэнна не раструшчылі прыродныя культурна-моўныя асновы карэннага насельніцтва саюзных рэспублік, як у БССР. Таму, калі ў нашым Інстытуце збіралі подпісы пад ужо гатовым Зваротам на імя М. Гарбачова, з вялікай радасцю і смеласцю ўнеслі свае прозвішчы пад гэты ліст я, В. Тоўсты і Л. Мірачыцкі. Адміністрацыя не дакарала нас за гэта: не той ужо быў час.

Каб не праклятая Чарнобыльская катастрофа, дык толькі жыві і радуйся беларускі народ, бо ў цябе з'явіўся надзейны шанец вырвацца з цэпкіх абдымкаў дзяржаўнай палітыкі русіфікацыі. Бадай, мала хто так моцна не перажываў прынесеную Чарнобылем бяду, як навукоўцы, што займаліся даследаваннем розных праблем атамнай энергетыкі, выратаваннем ад захворвання людзей з вялікай дозай апраменьвання. Проста дзівуюся, адкуль у Васі было так шмат знаёмых сярод такіх навукоўцаў ды амаль што цалкам беларускамоўных. Ад аднаго з іх пачуў такое:

- Каб мне ўдалося распрацаваць метад лячэння людзей з высокай дозай радыяцыі, выклаў бы яго толькі па-беларуску і адаслаў у адпаведныя міжнародныя арганізацыі, у тым ліку і ў Генеральную Асамблею ААН з умовай, што карыстальнікі такога метаду павінны яго апісанне перакладаць толькі з арыгіналу, г.зн. толькі з беларускай мовы. Тады б не толькі ў еўрапейскіх краінах, але і на ўсіх іншых кантынентах планеты Зямля даведаліся б, што беларуская мова не ёсць руская, што на першай з названых размаўляе самабытны народ , імя якога - беларускі.

Наколькі я дасведчаны пра вышэйапісанае, такі метад, на вялікі жаль, не вынайдзены і не апісаны. Людзі ад шкодных, непадкантрольных волі чалавека наступстваў Чарнобыля працягваюць заўчасна паміраць, невылечна хварэць. У нялепшым стане знаходзіцца і беларуская мова. Мала які ў свеце народ сутыкаецца з такімі складанымі, набалелымі праблемамі ў сваім біялагічным і духоўным жыцці.

Не памылюся, калі скажу, што ў распачатым у канцы 1980-х гадоў беларускім нацыянальна-культурным Адраджэнні яго розумам і сэрцам была перадусім навуковая інтэлігенцыя. Так здарылася, што ні я, ні Вася не сталі сябрамі Беларускага народнага фронту "Адраджэньне", бо існавалі і іншыя арганізацыі, актыўнай, добрасумленнай працай у якіх можна было многае зрабіць дзеля дарагой Бацькаўшчыны.

Я сабе месца знайшоў у Таварыстве беларускай мовы імя Францішка Скарыны, Вася - у Беларускім краязнаўчым таварыстве (створана ў 1989 г.), будучы намеснікам яго старшыні Генадзя Каханоўскага - рэдкай па адданасці нацыянальнаму інтарэсу асобы. Ён меў сур'ёзныя праблемы са здароўем ужо на час абрання на гэтую высокую і адказную пасаду. Адышоў у невядомы свет 15 студзеня 1994 года, так і не паспеўшы нічога вартага зрабіць на карысць Таварыству. Нічога не ўдавалася і В. Тоўстаму, бо ў год смерці Каханоўскага ў краіне ўсталяваўся далёкі ад беларускага нацыянальнага ідэалу палітычны рэжым. Падводзіла і здароўе. Відаць, таму і пайшоў ён на пенсію ў 61-гадовым узросце (1989), што зусім не характэрна для навукоўцаў мужчынскага полу нашага Інстытута. Ад таго часу я рэдка, вельмі рэдка бачыўся з Васем. Тэлефонныя размовы атрымліваліся надзвычай сухімі. Ні разу не было выпадку, каб ён першым патэлефанаваў мне. Пра незвычайную замкнутасць Васі тае пары я чуў ад многіх яго сяброў, прычыну чаму ніхто не змог патлумачыць мне.

Ад першых гадоў XXI стагоддзя сур'ёзна пагоршыўся стан здароўя маёй жонкі Ефрасінні, а ў 2003 годзе моцны па сіле інсульт амаль прыкуў яе да ложка. Я практычна зусім перастаў з'яўляцца на людзях. І ўсё ж дзесьці ў 2005 ці 2006 годзе давялося сустрэцца з Васем каля Беларускай дзяржаўнай філармоніі, на процілеглым баку якой на бульвары Мулявіна знаходзіцца яго кватэра. Пасля перанесенага інфаркту проста не пазнаць было майго сябра: шчокі ўпалыя, вочы нібыта ў тумане, колер твару блякла-жоўты. Калі надышла хвіліна развітання, я ніколькі не сумняваўся, што гэта ў нас апошняя сустрэча. Па тэлефоне некалькі разоў звязваліся. Пра творчыя планы, грамадскую дзейнасць - ні слова. Толькі пра самае дарагое гаварылі - здароўе. Вася не супраць быў майго візіту. Выбіраў, выбіраў час, каб якнебудзь вырвацца з дому, пакінуць на каго-небудзь сваю цяжкахворую жонку і ўсё ніяк не атрымлівалася. Пра смерць дарагога сябра (30 снежня 2009 г.) даведаўся з вялікім спазненнем ад супрацоўнікаў Інстытута. Пра яго былога загадчыка згадваюць толькі тыя, хто разам працаваў з ім. Ведаю, што ў Васі, як і ва ўсіх людзей такой прафесіі, маецца багаты архіў. Дзесьці ў 1970-х гадах ён мне паказваў аб'ёмісты машынапісны тэкст кнігі пад назвай "Клецк". Тады яе нельга было надрукаваць з-за прысутнасці матэрыялаў, не адпаведных сваім зместам афіцыйнай гістарыяграфіі. Сёння такой праблемы не існавала б.

Вось такім ў маёй памяці застаецца вобраз Васіля Тоўстага. Дзякуй, дарагі, што дапамог мне вярнуцца ў святое ўлонне беларускасці. Асабліва нічым я табе за гэта не аддзячыў, хіба можа толькі тым, што дапамог ад ужыванага на рускі лад прозвішча ***Талстой*** перайсці на вымаўленне і на напісанне ***Тоўсты***.

# З любоўю пра вёскі свайго раёна

Беларускія настаўнікі яшчэ канца XIX ст. вылучаліся тым, што на якой бы мове яны не вялі ў школах урокі, стараліся заняцца краязнаўствам. Менавіта на іх апіралася Імператарскае геаграфічнае таварыства, якое вывучала Паўночна-Заходні край. Магчыма мэты таго таварыства не заўсёды супадалі з поглядамі настаўнікаў, але дзякуючы іх праўдзівай інфармацыі мы сёння можам заглянуць у мінулае свайго краю і наогул Беларусі не на сотню, а дзесьці на паўтары сотні гадоў. Пэўную інфармацыю даюць нам старыя запісы вясковых святароў, якія іншы раз вялі летапіс свайго прыходу. У другой палове XIX ст. Беларускі край вывучалі і афіцэры Генеральскага штаба Расіі. На аснове іх матэрыялаў напісаны кнігі. Дайшлі да нас і архівы.

Многія савецкія і сучасныя беларускія настаўнікі паспяхова займаюцца краязнаўствам. Іх набыткі (на жаль толькі нямногіх!) становяцца вядомымі ў сваім раёне і за яго межамі.

Вось сёлета выдадзена кніга настаўніка беларускай мовы і літаратуры, жыхара вёскі Заполле Івацэвіцкага раёна Алеся Тамашавіча Зайкі "Населеныя пункты Івацэвішчыны". Гэта кніга - плён яго шматгадовай працы ў архівах і кнігасховішчах краіны і за яе межамі. Свае веды пра гісторыю і сучаснасць паселішчаў раёна ён пашырыў падчас вандровак па раёне, сустрэчаў і гутарак са старажыламі. Аўтару ў стварэнні краязнаўчага зборніка дапамагалі шмат хто: яго жонка Антаніна, супрацоўнік рэдакцыі раённай газеты В.М. Гапееў і кіраўніцтва Івацэвіцкага выканкаму раённага Савета. І кніга атрымалася немалая: яе аб'ём 304 старонкі, на якіх апавядаецца кароткая гісторыя 117 паселішчаў. Сярод іх ужо некаторых і няма. І такім чынам гэта кніга становіцца гісторыяй і помнікам зніклых вёсак. Коратка на паўстаронкі расказваецца пра вёску Красніца, якая вядома з 1554 года як уладанне каралевы Боны Сфорцы. У гады Першай Сусветнай вайны жыхары паселішча вымушаны былі пакінуць родныя мясціны і падаліся ў бежанства ў Расію. Вярнуліся дамоў у 1920-1921 гадах. Жылі, як умелі і маглі. Але зноў вайна. У час нацысцкай карнай аперацыі "Балотная ліхаманка", якая праводзілася ў верасні 1942 года супраць партызанаў, карнікі акружылі гэту вёску, спалілі ўсе 16 хат і знішчылі 90 яе жыхароў. Вёска не адрадзілася. На яе месцы ў 1950 годзе пастаўлены абеліск. Увекавечана яна і ў мемарыяльным комплексе "Хатынь".

Можна толькі радавацца, што такіх жудасных, жахлівых і сумных гісторый пра вёскі не шмат. У асноўным кніга стварае бадзёры настрой у чытача, бо аўтар пра кожную вёску расказвае па-майтэрску і з любоўю. Хочацца кнігу чытаць далей і даведацца пра наступнае паселішча, чым жа яно славутае. Усе паселішчы даюцца ў кнізе не па сельсаветах, а ў алфавітным парадку. Не лічу гэта недахопам, але адсутнасць у кнізе геаграфічнай карты з'яўляецца мінусам зборніка, бо цяжка завочна ўявіць дзе ж тая вёска знаходзіцца. Праўда, на пачатку кнігі ёсць невялікая карта-схема, якую я заўважыў толькі пасля таго, як напісаў гэту невялікую рэцэнзію.

Добра, што аўтар раскрывае паходжанне геаграфічных назваў альбо дае сваё тлумачэнне. Вось, як напрыклад, пра паходжанне назвы вёскі Яблонка: *"А было відаць так: раскарчавалі лес пад поле, а маленькую яблыньку ўзялі і пакінулі: "Няхай расце!" і назвалі сваё паселішча людзі Яблонка"*. Забаўна і проста. Калі тут здагадка, дык у іншых месцах аўтар спасылаецца на факты і гістарычныя крыніцы альбо на тлумачэнні іншых даследчыкаў.

З прведзеных аўтарам крыніц вынікае, як жылі прыгонныя сяляне да сялянскай рэформы. І калі пачаць аналізаваць іх матэрыяльнае становішча, дык атрымоўваецца, што мае вяскоўцы-калгаснікі ў 1950-х гадах жылі горш, чым прыгонныя. А працаваць у маёй вёсцы любілі і не лянаваліся, але яны ўжо не былі гаспадарамі. Алесь Зайка ў сваёй кнізе праводзіць звесткі з інвентара пра маёмаснае становішча вёскі Скураты. Падрабязна апісваецца гаспадарка Майсея Лушчыка. Ён меў 12 дзесяцін ворнай зямлі, 4 дзесяціны сенажаці, 0,5 дзесяціны прысядзібнай зямлі, 2 валы, 2 каровы, цялушку, 3 авечкі, 2 свіней. За карыстанне зямлёй гэты гаспадар адпраўляў тры дні на тыдзень работніка-мужчыну і два дні работніцу-жанчыну працаваць на панскае поле. Працавалі ад відна і да заходу сонца.

Тут варта сказаць, як пачынае свой аповед пра вёску Скураты аўтар кнігі. *"На Касоўшчыне здаўна ходзіць вясёлая чутка: прыгажэй за скуратоўскіх дзяўчат няма ва ўсёй акрузе. Мусіць па гэтай прычыне скуратоўскія красунь бралі за жонак самыя заўзятыя малойцы навакольных вёсак"*. Вось так у кнізе вылучаецца асаблівасць кожнай вёскі.

Маючы дастаткова фактычнага матэрыялу, перад аўтарам часта ўзнікае праблема, ці аддаць перавагу цікаваму аповеду ці коратка выкласці больш фактаў і зрабіць арыфметычны пералік дадзеных. Трэба адзначыць, што аўтар імкнецца спалучыць як адно, так і другое. Зразумела, зрабіць гэта вельмі цяжка. Але важна тое, што старонкі не перагружаны лічбамі. І яны лёгка ўспрамаюцца, тым больш памер шрыфту досыць вялікі і тэкст лёгка чытаецца.

Кніга выпушчана ў цвёрдай вокладцы, якая аздоблена лістамі пажаўцелай папараці. Нібы намёк на тое, што наш народ заўсёды марыў пра шчасце і шукаў яго ў купальскую ноч сярод папаратніку, але кветку папараці так і не знайшоў.

Калі бярэш у рукі кнігу, а сам ты родам ад Івацэвічаў за нейкіх 300 ці 350 кіламетраў, дык адразу здаецца, што кніга мне дасць мала чаго цікавага. Аднак гэта не так. Хоць аўтар шмат чаго апусціў, напрыклад, не ўсё напісаў пра вёску Гошчава, але тое, што кніга-даведнік выдадзена, ужо заслугоўвае вялікай пахвалы. Кніга спатрэбіцца не толькі жыхарам Івацэвіцкага раёна, але і настаўнікам гісторыі іншых раёнаў. У канцы кнігі даюцца "Спіс скарачэнняў", ""Крыніца і літаратура".

Можа спрачацца пра загаловак кнігі. Ці можна прыдумаць было спрытнейшы?! Але Алесь Зайка марыць надрукаваць і другую кнігу пра свой раён. Ён піша мне так: *"Буду рыхтаваць другую кнігу, у якой асобныя факты, падзеі раскрыюцца, пашырацца, увасобяцца ў навукова-папулярныя артыкулы, нарысы, эсэ"*. Зычу калегу па пяру творчага плёну.

***Сымон Барыс.***

# З цынічна-насмешлівай афарбоўкай

Рэстаранны комплекс "Бульбаш-хол", гарэлка "Бульбаш" і іншае нібыта звязанае з "бульбашом" і вытворнае ад яго... Сёння гэтыя назвы-дэфініцыі і тыя з'явы, за якімі яны стаяць, выклікаюць вострыя дыскусіі, асабліва ў прасторы незалежных СМІ, інтэрнеце і г.д. Адны бачаць у іх абразу сваёй чалавечай, нацыянальнай і грамадзянскай годнасці; другія, хітравата ўсміхаючыся і нібыта чагосьці вычэкваючы, разыгрываюць уласны нейтралітэт; трэція - абыякавыя і да т.п. Роскід думак і адносін тут - шырокі. Але нідзе і ніхто пакуль не нагадаў, дзе, у якім асяроддзі ўзнікла такое вызначэнне - "бульбаш".

А ўзнікла яно ў турэмна-лагерна-блатным свеце, пра што сведчыць “Словарь тюремно-лагерно-блатного жаргона (Речевой и графический портрет советской тюрьмы)”, выдадзены ў 1992 годзе выдавецтвам "Края Москвы" у Маскве. Аб'ём выдання - каля паўтысячы старонак. Можна сабе ўявіць, колькі і якой там прысутнічае фені (жаргону, арго), звычайна з насмешлівай, а то і цынічнай афарбоўкай. Дык вось з трыццаць пятай старонкі гэтага выдання на нас глядзіць радок з тэкстам: "Бульбаш - белорус".

Не станем тут распавядаць - расшыфроўваць гістарычнае (каланіяльнае) паходжанне - (этымалогію) гэтага зместу, але маем усе падставы сцвярджаць, што тыя, хто ўзяўся будаваць рэстаранны комплекс "Бульбаш - хол" на костках нявінных ахвяр крамлёўскага рэжыму ў Курапатах, як і тыя, хто праз танную нажыву (халяву) бярэ ўдзел у далейшым актыўным спойванні людзей “Бульбашом”, з'яўляюцца стоадсоткавымі носьбітамі турэмна-лагерна-блатной псіхалогіі і ідэалогіі ў памяркоўным беларускім грамадстве.

Дарэчы, названы слоўнік утрымлівае ў сабе і бліскучы артыкул акадэміка Д.С. Ліхачова "Черты первобытного прымитивизма воровской речи", напісаны ў 1935 годзе. адразу пасля яго вызвалення са зняволення на Салаўках.

***Яўген Гучок.***

# Сусветна вядомы старадрук XVII стагоддзя. Прэзентацыя ў Магілёве



5 студзеня ў Магілёўскай ратушы Музей гісторыі Магілёва прэзентаваў грамадскасці набытую на ахвяраванні кнігу Казіміра Семяновіча "Вялікае мастацтва артылерыі". Старадрук 17 стагоддзя, паводле дырэктара музея Аляксея Бацюкова, прыдбаны ў прыватнага калекцыянера на сабраныя талакой 15 тысяч еўра. У Беларускіх дзяржаўных установах ніводнага экзэмпляра кніг Семяновіча да 2012 году не было.

Сродкі на кнігу пачалі збіраць сем месяцаў таму, акурат пасля таго як музей таксама на ахвяраванні набыў Статут Вялікага Княства Літоўскага. Прыдбаны музеем старадрук на нямецкай мове лічыцца трэцім выданнем кнігі беларускага навукоўца. Паводле Аляксея Бацюкова, у ім захаваныя ўсе гравюры і малюнкі, акрамя таго ў кнізе маецца другая частка складзеная ўжо пасля смерці Семяновіча. Выданне датаванае 1676 годам.

выданні кнігі Казіміра Семяновіча - 1650 году і 1651 году на латыні і французскай мове. Яны ў адрозненне ад "магілёўскага" набытку не маюць поўнай камплектнасці. У іх вялікая колькасць гравюр страчаная.

Што да асобы Казіміра Семяновіча, то Аляксей Бацюкоў зазначыў:

- Казімір Семяновіч у шэрагу беларускіх гістарычных асобаў займае пачэснае і асобнае месца. Практычна мы нікога не ведаем і не зможам знайсці з настолькі выбітных дзеячаў навукі ўсясветнага ўзроўню ў прамежку часу ад узнікнення Беларусі і да 20 стагоддзя. Усе пазнейшыя нашыя свяцілы гэта ўжо гадаванцы расейскай і савецкай навукі. Самабытных навукоўцаў, якія б выхоўваліся на нашай зямлі, атрымаўшы адукацыю ў Віленскім універсітэце і потым сталі б зоркамі ўсясветнага маштабу як Семяновіч мы не ведаем, прынамсі, пакуль не ведаем.









- Сёння ў нас рэдкая магчымасць ёсць пагартаць кнігу. Пазней такой магчымасці не будзе. Кніга павінна захоўвацца як музейны экспанат. Бліжэйшым часам кніга зойме сваё месца ў экспазіцыі музея. І яе можна будзе пабачыць. Мы мяркуем у пэрспектыве кнігу перакласці і магчыма распаўсюдзіць па падпісцы, - сказаў А. Бацюкоў.

Як зазначыў Аляксей Бацюкоў збор сродкаў на набыццё кнігі паспрыяў таму, што Нацыянальная бібліятэка Беларусі атрымала ў падарунак ад свайго спонсара таксама два

На прэзентацыю прыйшлі блізу 30 чалавек. Сярод іх былі і тыя, хто ахвяраваў сродкі на набыццё кнігі Семяновіча. Былі і госці з Менска, якія непасрэдна спрычыніліся да пошуку і перамоваў па набыцці выдання - навуковец Зміцер Яцкевіч і студэнт Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсітэта Андрэй Радкоў.

Прэзентацыю наведалі і чыноўнікі з аблвыканкаму і гарвыканкаму. Дэлегацыю дзяржаўных службоўцаў ачольваў намеснік старшыні аблвыканкаму Валерый Малашка.

***Радыё Свабода.***





**Паганіні**

Вочы майстра - сляпыя пальцы -
па вяках пракладаюць шлях.
Ды чамусьці аб струны раніцца
да крыві найчасцей душа.

Як самому з сабою справіцца?
Па анёлу на дзве рукі...
Калі пальцы, як свечкі, плавяцца -
слёзы просяцца ў жабракі.

Падпілоўвала здрада хіжая,
падпільноўвала кожны крок...
Тройчы ўмёршы,
ніхто не выжыў шчэ,
нават Бог. Паганіні змог.

**Ван Гог**

Лякарня страшней астрога.
Тут кожны медбрат - Пілат.
Парыж палюбіў Ван Гога
за тое, што ён - вар'ят...

Калі з гільяцціннай скрухай
глядзіць на цябе мальберт,
патрэбна адрэзаць вуха,
каб выйшаў аўтапартрэт...

Ды нат калі д'ябал з рога
лье ў горла штоноч абсент,
Вам Бога заміж Ван Гога
усё ж не прадаў Вінсент!..
25. 09. 2012

**Арда**

*Вользе Іпатавай*

У чужынцаў - звычка такая -
за сабою паліць масты.
Як разгублена вол рыкае,
як дрыжаць між павекаў ксты...

А дымы над бязмежным краем
працінаюць стрэл спічакі...
Гэта Бог за грахі карае
вузкавокі, як крымчакі.

Твар Іуды між хмар лунае,
упіліся ў душу цвікі.
Сонца-шчыт у руках Мамая
не заходзіць аж тры вякі...

Не змазолелі ў кроў калені,
не прадалі душу ў ярмо.
Спакон веку свабоду мелі
і сягоння не аддамо!

**Грэшнік**

Хай за гэта мяне караюць,
хай за праўду распнуць, і ўсё ж -
замік крыжа ў душы хаваю,
як Варава, халодны нож.

Абвіла, як змяя, дарога,
дні згарчэлі на лебяду.
Не з крыжом, а з нажом да Бога
на паклон у царкву іду…

Крыж - у Бога, а нож - у Смерці,
а душа у мяне баліць.
Як жагнаюся, дык у сэрцы
крыж аб нож серабром звініць.

**Марыя Магдалена**

Хто прымусіў устаць з каленяў,
хто цябе ад грахоў збярог?
Хто імя тваё, Магдалена,
прыгубіў, як прычасце?
- Бог!

*Эдуард Акулін*

# Бой з сабой…



Хто душу захаваў ад тлену
Хто з табой, як з сястрою, лёг?
Хто паклаў у пустую жмено
не дзінар, а надзею?
- Бог!

Хто слязу залатую з веяў
у бурштын пераплавіць змог?
Хто раз'юшаных фарысеяў
супакоіў, як блох?
- Бог!

Хто крывёю свой шлях адмеціў?
Хто прыпаў да біблейскіх ног?
Хто табе прашаптаў, як вецер,
Алілуя, Марыя?
- Бог!
*2010 г.*

**След**

Не ў Евангеллі,
а у гліне
віфліемскай
згубіла след
небаверная Еўфрасіння…

Бог заўважыў
яго
і з гліны
той спачатку
зляпіў цагліну,
а пасля -
беларускі свет.

**Пацалунак Іуды**

Дух Гасподні лунаў над светам,
цела ела цвікоў іржа,
а ўжо ён, пацалунак гэты,
споўз, як смоўж, на зямлю з крыжа.

Камнем кануць народы ў Лету,
час застанецца без замкоў…
Толькі ён, пацалунак гэты,
пераможа арду вякоў.

Ноч агорне крылом планету,
Госпад вернецца, каб судзіць…
Ну, а ён, пацалунак гэты,
будзе ў цемры Яму свяціць.

**Бой з сабой**

І гарачы сінайскі вецер,
і грыфоны - сляпой ардой -
мелі, Госпад, цябе наўвеце,
калі ты распачнеш свой бой.

І жанчыны у чорным зрэб'і,
і аракулаў гулкі рой
мелі, Госпад, цябе наўвеце,
калі ты распачнеш свой бой.

І апосталы - твае дзеці,
і Анёл з залатой трубой
мелі, Госпад, цябе наўвеце,
калі ты распачнеш свой бой.

Але кожны з іх, чуеш, кожны
сніў трыумф пераможны твой.
І ніхто й не падумаў, Божа,
што ты бой распачнеш з сабой.

**Ной**

*Збігневу Гордзею*

Сорак раз пасылаў сякеру
у сваты да сырых камлёў
і каўчэг будаваў свой з веры,
што ўратуе жыццё Любоў.

Давяраўся, як брату, зверу,
з птушкай раіўся, як з сястрой,
і каўчэг будаваў свой з веры
у Гасподняе слова Ной.

Моўчкі зносіў людскія кпіны:
- Дзе ты плаваць сабраўся, Ной?
І ў каўчэг запрашаў расліны,
Як паломнікаў, на пастой.

Перамогшы ў вайне з Патопам,
здзейсніў Госпадаў запавет…
І ужо не з нуля, а з Ноя
нарадзіўся нанова свет!

**Лён**

*Ахвярую Алесю Бяляцкаму*

Мне прыснілася сёння Доля,
запаветны, як Слова, сон.
Мы з Сысом у нябёсным полі
разам жалі блакітны лён.

Разам жалі, ды раптам серпам
я адцяў галаву вужу,
і царновыя слёзы свербам
разарвалі маю душу.

Я заплакаў з такім адчаем
на які толькі ў сненні змог,
як па брату забітым Каін,
як Пілат ля Хрыстовых ног…

І сказаў мне на гэта Толя:
- Плачаш, - значыць грахом жывеш…
Вуж скрываўлены ў белым полі -
гэта мой развітальны верш.

І замоўк. І пайшоў няспешна,
аж пакуль між аблок не знік.
Над вужом, над забітым вершам
лён гайдаўся, як сіні німб.

**Вавілон**

У Вавілоне - каінавым месце -
жыццё не ў смак - ён вырас на крыві…
І ў позірку патрэсканым на фрэсцы
няма ні кроплі боскае Любві.

Быць захацелі небажыхарамі --
рабы спакусы, вяршыні аблок….
І за гардыню Госпад пакараў іх,
даў ім урок ад вечнасці за крок…

Бо заміж Веры - вежу збудавалі,
перамаглі, як хтось крычаў, вякі…
Ды раптам, як на трызне, заспявалі
кожны па-свойму ўсе галаснікі…

Давёўшы вавілонцаў да вар'яцтва,
абрынуліся "вечныя" муры,
а разам з імі - богапанібрацтва,
а разам з імі - "небажыхары"…
*5. 12. 2012 г.*

**Ляцім да зор…**

*Ахвярую Паўлу Бераговічу*

Душам дзвюм у аўто няцесна,
калі ў вочы Анёл глядзіць…
Прытуліўшы жыццё да крэсла,
па-апостальску Павел спіць.

Зэльва, Слонім, Стаўбцы мільгаюць,
як каметы ў аконным шкле.
Павел спіць і пакуль не знае,
што і ў снах Беларусь жыве…

Гэта ведаў адзін Купала,
калі падаў з нябёс, як сцяг…
Калі бел-чырван-белай стала -
не кашуля - душа ў грудзях.

А дарога - стралой з-пад колаў,
ажно свішча ў вушах прастор.
І сляза на шчацэ Анёла,
мо таму, што ляцім да зор?..
*17. 11. 2012 г.*

**Было...**

*Калісь глядзеў на сонца я...*
*Максім Багдановіч.*

Ты ўся сатканая з лілей,
ты ўся сатканая з туману...
Віно з з вадой змяшаў Арфей,
а я віну змяшаў з падманам...

А я насмеліўся сказаць
і паўтараць, як псальм, бясконца:
- Гасподзь жанчын такіх ствараць
павінны быў з праменняў сонца...

Бо ты і ёсць само святло,
што асляпляе і чаруе...
Хай нехта скажа мне: - Было...
Было... Аслеп... Гасподзь даруе.

**Вяртанне**

*Л. Дранько-Майсюку і*
*Ул. Някляеву*

Па дарозе з Вільні на Менск,
наліваючы ў чаркі крупнік,
я ўявіў, як у вусны рэк,
нібы ў сурмы паэты трубяць.

Па дарозе з Вільні на Менск,
па шляху з варагаў у грэкі
адбіваўся жмудзінскі лес,
нібы лёс у крывіцкіх рэках.

Па дарозе з Вільні дамоў
нас было такіх толькі трое,
тых, хто мёдам разбавіў кроў,
і здалася без бою Троя…

Па шляху, што аслеп ад слёз,
нас было такіх крыху болей,
хто журбу кантрабандай вёз
па аднятай у нас Пагоні.

Па дарозе з Вільні на Менск
мы апокрыф жыцця тварылі,
што святое паблізу спрэс,
як ад Бога любоў Марыі…

Па дарозе з Вільні дамоў
мы успомнілі Гедыміна,
і у жылах шалёна кроў
закіпела і задыміла…

Не было на зямлі радней
за начнога таго хаўруса.
Мы пілі, і зялёны Змей
спакушаў нас у Беларусы!..

**Грэх**

Ніколі душа не стоміцца
вяртацца ў Эдэмскі сад...
Да гэткіх жанчын становяцца
паэты па рыфму ў рад.

Пад пільным паглядам Пушкіна,
адвёўшы дуэльны гнеў,
Вы словы цымбальна гушкалі -
пяшчотай Эдэм звінеў.

А грудзі - спакусы птушкі,
забыўшы пра ятаган,
такія калісь прыручваў
да стэпу татарскі хан...

Хоць з вуснамі вусны позняцца
спаткацца хаця б наспех,
а ўжо паўтарыцца просіцца
нанова біблейскі грэх.

**Сцяг**

*Уладзіміру Някляеву*

Ты перамог без перамогі…
Перамагае гэтак Лёс.
Ды не сышоў убок з дарогі,
нібы крывіцкі наш Хрыстос.

Даволі! - выгукнуў і Волі
сябе аддаў ты наўзамен…
Вышэй за воблачную столю
твой Дух лунаў - Дух перамен!

А той, крыві тваёй хто прагнуў,
нібы сляпы ад помсты воўк,
бег за табой па пахі ў багне
ад Каіна граху за крок…

За крок ад смерці, напаўшы
крывёй чырвонай белы снег,
ты сам стаў Сцягам, Дух узвіўшы,
вышэй за каінавы грэх.

І калі нехта запытае:
- Дык дзе наш Сцяг і Воля дзе?
Я адкажу:
- Ён там лунае,
дзе Беларусь на Плошчу йдзе!

*Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік*

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі* № 908 ад 18 снежня 2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
*Адрас рэдакцыі:*
231293, Лідскі р-н, в. Даліна.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* naszaslowa@tut.by



http://nashaslova.mns.by/ http://pawet.net/
http://kamunikat.org/ http://tbm-mova.by/



Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 8.01.2013 г. у 10.00. Замова № 11.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 2000 асобнікаў.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 4450 руб., 3 мес.- 13350 руб.
***Кошт у розніцу:*** па дамоўленасці.